УДК 821.161.1-1
ББК 84(4Беи)-5
С48

Укладанне, прадмова і зноскі
Сяргея Чыгрына

Малюнкі
Рыгора Жука

**Слонімскія** настроі : вершы / укл., прадм. і зн. С. Чыгрына. — Мінск : Кнігазбор, 2016. — 160 с.
С48 ISBN 978-985-7144-57-0.

Зборнік склалі вершы беларускіх паэтаў, прысвечаныя старажытнаму гораду Сloніму і яго ваколіцам, а таксама знакамітым людзям слонімскай зямлі.

**821.161.1-1**
**ББК 84(4Беи)-5**

**ISBN 978-985-7144-57-0**




## Слонімшчына ў беларускай паэзіі

Слонімшчыне пашанцавала. Пра яе заўсёды пісалі і пішуць беларускія паэты. Ёй прысвячаюць вершы, паэмы, балады, у творах адлюстроўваюць гісторыю слонімскай зямлі, апяваюць знакамітых слонімцаў, помнікі, падзеі. Прыйшоў час сабраць пад адну вокладку лепшае з напісанага. Так атрымалася гэта паэтычная кніга з назвай «Слонімскія настроі».

Кнігу пра Слонімшчыну склалі не толькі вершы паэтаў, якія жывуць на Слонімшчыне, але і творы аўтараў з іншых куткоў Беларусі, у тым ліку творы тых паэтаў, якіх ужо няма сярод нас. Найперш гэта вершы і ўрыўкі з паэм Алега Лойкі, Міколы Арочкі, Анатоля Іверса, Ларысы Геніюш, Івана Сяргейчыка, Алеся Сучка, Васіля Супруна, Івана Чыгрына, Віктара Шымука, Сяргея Новіка-Пеюна і іншых.

Бадай што ніхто з беларускіх паэтаў не прысвяціў столькі вершаў свайму роднаму гораду, бацькоўскаму кутку і землякам, як Алег Лойка. Нават Рыгор Барадулін разам з Еўдакіяй Лось і Петрусём Броўкам не напісалі столькі паэтычных радкоў пра сваю Ушаччыну, колькі Алег Лойка адзін пра слынны і старажытны Слонім і Слонімшчыну, з іх прыродай, працавітымі і мужнымі людзьмі, багатай гістарычнай спадчынай.

Паэму «Посах душы» ён прысвяціў Жыровічам. Вёска Жыровічы знаходзіцца кіламетраў за дзесяць ад Слоніма. Цяпер тут дзейнічаюць праваслаўныя духоўныя акадэмія і семінарыя. Але Жыровічы вядомы яшчэ тым, што тут у XVI стагоддзі быў заснаваны манастыр базыльян з цэрквамі і семінарыяй. А сёння Жыровічы — гэта беларуская праваслаўная Мекка. Сюды з усіх куткоў свету спяшаюцца вернікі, спяшаюцца да жыровіцкай святыні з комплексам храмавых і манастырскіх пабудоў, што захаваліся да нашых дзён. Жыровіцкая святыня цікавая не толькі як унікальны праваслаўны асяродак, але і як помнік архітэктуры і гісторыі, як сімвал складанага і нялёгка-

га лёсу беларусаў. А побач з Жыровічамі струменіць святая крыніца. Кожны, хто бывае ў Жыровічах, абавязкова набірае з сабою вады з гэтай крыніцы. Алег Лойка з крыніцы і пачынае сваю Жыровіцкую паэму:

Стаяла ў лесе крыніца,
А ў крыніцы — вадзіца,
Над вадзіцай — груша,
Да грушы — душою рушу…

Паводле народнай легенды, у 1470 годзе на лясной дзікай грушы пастушкі знайшлі абразок. Абразок яны занеслі ў маёнтак Аляксандру Солтану. На тым святым месцы пабудавалі цэркаўку. А калі здарыўся пажар і цэркаўка згарэла, дзіўны абразок з'явіўся на камені недалёка ад крыніцы. На тым месцы быў пабудаваны новы храм. Цяпер там узвышаецца Яўленская царква. А абразок Жыровіцкай Божай Маці зберагаецца ва Успенскім саборы.

Алег Лойка ў сваёй паэме апісаў гісторыю жыровіцкай святыні, склаў гімн Жыровічам. Наогул, у зборнік «Слонімскія настроі» ўвайшло вельмі шмат вершаў пра Жыровічы. Найперш, гэта радкі Ларысы Геніюш. Упершыню Ларыса, яшчэ Міклашэвіч, даведалася пра Жыровічы, калі яе родны брат Расціслаў вучыўся ў Жыровіцкай сельскагаспадарчай школе. Гэта быў, як згадвае яна ў сваёй «Споведзі», высокі, прыгожы і паслухмяны хлопец. Пазней ён загіне на фронце Другой сусветнай вайны. Паэтка прысвеціць яму некалькі сваіх вершаў.

Дзед Ларысы Геніюш Павел Міклашэвіч быў родам з Крынак з Беласточчыны. Ён ажаніўся ў 18 гадоў з 16-гадовай Марфай з вёскі Чамяры Слонімскага павета. Юная Ларыса вельмі часта бывала ў Чамярах, якія побач са Слонімам. Ну, а быць у бабулінай вёсцы і не завітаць у Жыровічы быў бы для яе грэх. Таму дзяўчынка разам з бабуляй Марфай і з маці спяшаліся на вялікія святы ў Жыровічы. Ці не Успенскі сабор і Крыжаўзвіжанская царква натхнялі паэтку на вершы, многія з якіх прысвечаны рэлігійным падзеям, а духоўнасць скразною лініяй праходзіць праз яе паэзію. У сваіх вершах паэтка пастаянна звяртаецца да Бога, просіць у яго дапамогі, бласлаўлення, дазволу.



Пра Жыровічы і жыровіцкую крыніцу напісаны цудоўныя радкі Зьніча, Алеся Клышкі, Таццяны Трафімчык, Міхася Скобы.

У зборніку надрукаваны ўрыўкі з яшчэ адной паэмы Алега Лойкі «На залатым перазове», якая таксама прысвечана слонімскай зямлі. Паэма своеасаблівая і арыгінальная. Паэт едзе ў электрычцы з Зэльвы да Баранавічаў. І апісвае тыя станцыі, якія праязджае. Згадвае гісторыю станцый, асабліва слонімскіх, людзей, якія там жылі ці жывуць, падзеі, што там адбываліся. У раздзеле «На Азярніцкім паўстанку» Алег Лойка вёску Азярніца называе сталіцай, бо тут жыла ягоная сястрыца, а ў Грынках «прысела бульба — зеляніцца качкай, іду я з маці, маці ідзе з гачкай». Пасля Грынкоў — Чамяры, дзе жыў паэт і партызан Анатоль Іверс, а за Чамярамі адразу пачынаецца Слонім, пасля — Альбярцін і г. д.

У 2002 годзе Алег Лойка напісаў і шчымлівую паэму «Плач зямлі Слонімскай», якая ўвайшла ў яго паэтычны зборнік «Плач зямлі» (Мінск, 2004). Рэфрэнам праз усю паэму праходзяць радкі паэта:

Нікому ніколі не дадзена знаць,
Дзе нарадзіцца, дзе — сканаць.
Ды ведаю я, знаю,
Кім, дзе, калі сканаю,
Любячы край свой родны,
Што гіне беззваротна.
Ды ў ім, любым і лядачым,
Не ўзняць не магу галаву:
Пакуль жыву, плачу,
Плачу, пакуль жыву…

Алег Лойка быў і застаўся паэтам народна-слонімскім. Ён найбольш зразумелы нам, слонімцам. На Слонімшчыне яго ведаюць усе, нават тыя, хто ніколі не чытаў яго вершаў, не сустракаўся з ім пры жыцці. У кожнай вёсцы на Слонімшчыне ў яго ёсць сваякі і сябры. Пра лёсы землякоў Алег Антонавіч ведаў усё, мог распавядаць суткамі цэлыя жыццёвыя гісторыі. І гэтыя гісторыі розныя: трагічныя, радасныя, шчаслівыя,

смешныя. Паэма «Плач зямлі Слонімскай» — своеасаблівая гістарычная энцыклапедыя слонімскіх вёсак і яе жыхароў.

Наогул, у вершах беларускіх паэтаў вельмі прыгожа і шырока апеты вёскі Слонімшчыны, апеты па-рознаму: і весела, і шчыра, і трагічна, і цёпла, і па-вясковаму неяк чулліва, і нават смешна. Найбольш паэтычных радкоў дасталося Жыровічам, Чамярам, Вялікай Кракотцы, Хадзявічам, Вераб'евічам, Сакалову, Едначам, Шыганам, Востраву і іншым вёскам.

На Чырвонаармейскай вуліцы (былой 3 Мая) у Слоніме да Другой сусветнай вайны ў невялікай хатцы жыў слынны беларускі паэт Гальяш Леўчык (1880–1943). Да яго ў 1939 годзе, едучы з Беластока ў Мінск, заязджаў Янка Купала. Ён, дарэчы, быў рэдактарам першай кніжкі Гальяша Леўчыка «Чыжык беларускі» (Вільня, 1912). Старыя сябры сустрэліся, паабедалі ў Першым беларускім рэстаране, і Купала на сваім «Шаўрале» паехаў па вуліцы Маставой на Мінск. Цяпер вуліца Маставая ў Слоніме носіць імя Янкі Купалы. І Гальяшу Леўчыку, і Янку Купалу, і Агінскім, і Сапегам, і Наталлі Арсенневай, і Уладзіміру Бялько, і Сяргею Дарожнаму, і генералу Яўгену Леашэню, і многім іншых асобам, лёс якіх быў непасрэдна звязаны са Слонімшчынай, прысвечаны цікавыя паэтычныя радкі, змешчаныя ў гэтым зборніку.

Родны Слонім, рэчкі Шчара, Іса, Валобрынка, Бяздоннае возера, вуліцы горада гняздзяцца ў многіх вершах беларускіх паэтаў. Слонімшчына ва ўяўленні і выяве аўтараў у кожным вершы заўсёды раствараецца ў прыродзе, зліваецца ў гістарычных і экалагічных паэтычных усведамленнях. Гэта вершы шчырыя, добрыя, запамінальныя. А інакш іх не пісалі б пра спрадвечны горад над Шчарай. Таму верыцца, што кніга «Слонімскія настроі» спадабаецца не толькі слонімскім чытачам, але і ўсім, хто цікавіцца беларускай паэзіяй і гісторыяй.

*Сяргей ЧЫГРЫН*



## ЭДЗІ АГНЯЦВЕТ

*(1913–2000)*

### Лісты генерала Леашэні*

Не зрабілі Вас саноўным
Ні пасады, ні чыны.
Бераг помнілі галоўны —
Рэчку Ісу і чаўны.
Там дзяцінства, там краіна
Самых светлых, мілых год.
Там сцяжынкі Альбярціна**,
Дзе бярэ пачатак род.
Бачылі Вы прад сабою
Медуніцы ў бляску рос.
Хоць было не да спакою:
На вайне — ваенны лёс.
Хіба ведаюць біклажкі,
Дзе салдат, дзе генерал?
Сорак першы, самы цяжкі,
Ваша сэрца вывяраў.
На дарогах да Берліна —

---

* Верш прысвечаны слонімскаму генерал-маёру інжынерных войск Яўгену Леашэню (1900–1981).

** Альбярцін — мікрараён Слоніма, а ў мінулых стагоддзях гэта быў маёнтак, мястэчка, пасёлак.

Вашы смелыя масты…
Свецяць лісцем Альбярціна
Вашы ціхія лісты.
Голас вернага служэння
З даваенных клікаў дзён,
Голас Карбышава*: Жэня! —
Быў, як ласка і закон.
З-пад яго крыла Вы ўсталі
Нездарожаны, жывы.
…Хай бы вечна прыляталі
Вашы ластаўкі з Масквы!
Быў апошні ліст нязвычны
Ў прадчуванні небяспек.
Быў зварот, як боль крынічны:
— Дарагі мой чалавек! —
Не мяне, а ўсіх дазвання
Вам хацелася сагрэць
На парозе развітання…
Я ж не веру ў Вашу смерць.




* Дзмітрый Карбышаў (1880–1945) — Герой Савецкага Саюза.



## ВАЛЯНЦІНА АДАДУРАВА

*(1941–1995)*

### Родная вёска

Бяжыць сцяжынка ў Хадзявічы*,
Бяжыць, пятляе праз лясок
Туды, дзе на палях пшанічных
Мне родны кожны каласок.
Маё дзяцінства — Хадзявічы.
За вёскай булькат ручайка.
Між тысячаў людскіх абліччаў
Свайго пазнаю земляка.
Ты самабытнасць захавала,
Я помню кожны твой урок.
З вясковым кодэксам маралі
І сёння свой звяраю крок.
Маё юнацтва — Хадзявічы,
Знаёмы говар землякоў
Мяне з сабою ў госці кліча
Дадому, ў вёску, да бацькоў.
Дадому ў госці… Крыўдна, шчыра,
Ды птушкам быць не век ў гняздзе.
Хай будзе найцяплейшы вырай,
А сцежка зноў сюды вядзе.

* Хадзявічы — вёска ў Слонімскім раёне.

Куточак родны — Хадзявічы,
Да вас шляхі з усіх канцоў,
Ды незнаёмы, непрывычны
Мне твары юных хадзяўцоў.
Знаёмы погляд іх ласкавы,
Яны ж равеснікаў сыны,
Нібы гусценькая атава,
Як вёскі маладосць яны.
Я крыўды ў сэрцы не трымаю,
Я адганяю рэўнасць прэч.
Бацькоўскаму жадаю краю
І маладзець, і харашэць.

## Спатканне з Жыровічамі*

Дзень сонечны, цёплы, вясёлы,
Ўзлятае з-пад колаў жарства.
Ў Жыровічы еду, у школу,
Чакае сустрэчы дзятва.
Візіт у Жыровічы першы,
Цікаўны дзіцячы пагляд.
Затоена слухаюць вершы,
А потым — пытанняў каскад.
На сэрцы лагоднасць і свята,
Марыя Нупрэеўна — гід —
Вядзе па мястэчку, дзе хаты —
Палацы або церамкі.
А потым ідзём да крыніцы,
Дзе, кажуць, жывая вада.
Напіцца яе, прычасціцца, —

* Жыровічы — вёска ў Слонімскім раёне.



Адступіць любая бяда.
Маленне суботняе ў хораме
Прыемна здзіўляе ізноў.
А я чырванею ад сораму:
Ў малітвах не ведаю слоў.
«О, злітуйся, злітуйся, Божа!» —
Спяваюць салісты і хор.
І тут я бездапаможная,
І сэрца свідруе дакор.
Застыла. Знямела. Ні кроку.
Вячэрняя служба ідзе.
Стаю сузіральніцай збоку
Чужая між нашых людзей.
І хоць незнарок не адлучана
Ад святасці і ад царквы,
Аднак і нікім не навучана
Маліцца за мёртвых й жывых.
Жыровічы. Сонечны верасень.
Ў паклоне схіляюся ніц.
Адродзімся мы, калі вернемся
Да нашых забытых крыніц.

## Слонім. Паланэз Агінскага*

Заціхлі даліны і ўзгор'і,
Замоўк шматгалосы лес.
Прыслухайся — скрыпкі гавораць,
Паслухай — плыве паланэз.

*Маецца на ўвазе паланэз ля мінор «Развітанне з Радзімай», напісаны кампазітарам Міхалам Клеафасам Агінскім.

Прыціхла блакітная Шчара*,
І белы ля веснічак бэз.
У гуках і слёзы, і мары,
І ўсё, гэта ўсё — паланэз.
З радзімай цяжкое расстанне.
Ты, фурман, не вельмі спяшы.
Гучыць паланэз — не танец,
А крыкі збалелай душы.
Сардэчная гэта мелодыя
Настоена на палыне.
Бывайце, мясціны родныя,
Застанься, жыві, паланэз!



* Шчара — рака, якая працякае праз Слонім.



## МІКОЛА АРОЧКА
*(1930–2013)*

### Вялікая Кракотка*

*Да 50-годдзя Вялікакракоцкай сельскай бібліятэкі імя Янкі Купалы***

Мой цэлы свет: Вялікая Кракотка,
Часоў бурлівых родны мацярык.
Была Кракотка як рака ў паводку,
Была Кракотка — гнеў, і боль, і крык.
Кракотка — гэта хвойны пах узлесся,
Гняздо за пазухай зялёных гор.
З таго гнязда заклекатала песня,
Што клікала з нізіны: «Гэй, да зор!»
Рашаўся лёс… Прадвесне гнала крыгі.
І вось тады з твайго мацерыка
Дрыготка пацягнулася да кнігі
Мазольная сялянская рука.
Святая прага ведаў і пазнання!
У родным слове чалавек ажыў.
Было тут вашай еднасцю змаганне,
А духам мужнасці Купала быў.
Хто знае, колькі іх, натхнёна-ўпартых,

* Вялікая Кракотка — вёска ў Слонімскім раёне.
** Праіснавала 80 гадоў: з 1927 да 2007, цяпер не існуе.

Адсюль паклікаў наш змагарны край?
Нядарма верш, якім пілуюць краты,
З зямлі вось гэтай здабываў Таўлай.
Нязломны дух… Жывая сіла мовы.
Жыву з тых дзён я вашаю красой.
Жыткевічы… Збраевіч… Трафімовіч…*
Ля вас я грэўся словам і душой.
Я ўдзячны вашай дабраце і хлебу,
Хоць менее ўсё рук — іх кліча дол.
Вучылі ж вы, як сеяць зерне ў глебу,
Каб луста праўды асвячала стол.
Нашу я сёння, замест эпілога,
Гаркоту з вашых апусцелых хат.
За бурны век вы вызналі так многа!
Ды пра такое думаў хто?.. Наўрад.
Мой родны свет: я ў кожнай тут часцінцы
Жыву — дзялю трывогу і слязу.
І ўсё, чым з каранёў тут прычасціўся,
Я ў людства, як урок ваш, панясу.

## Каля Вялікай Кракоткі

*Памяці Валянціна Таўлая***

Сюды, на ўлонне бароў і палян,
Калісь прыязджаў з-за паўсвета
Красой любавацца вяльможны пан
І нават папісваў санеты.
Пісаў, што ў галінках шчабечуць яму

---

* Жыхары вёскі Вялікая Кракотка, грамадскія актывісты.
** Валянцін Таўлай (1914–1947) — беларускі паэт.



Пра вечнае шчасце сініцы,
Што ўсю прахалоду яму аднаму
Прыносяць лясныя крыніцы…
А той, хто з маленства у гэтым гаю
І з хвояй, і з песняй здружыўся,
У тую часіну быў рад вераб'ю,
Што часам ля кратаў садзіўся!
Крыніцы мог бачыць — хіба толькі ў сне,
Далёка ад сосен кашлатых.
І з думкай пра іх, пра цябе, пра мяне
Радком пілаваў ён краты.
І, пэўна, таму яшчэ з даўняй пары
Люблю я так гэтае месца —
Усё: ад птушынае песні ўгары
Да шышкі калючай на сцежцы!

## Бяздоннае*

Паспрачаліся калісь
Дзядзькі на ігрышчы:
Ёсць у Бяздонным дно ці няма?
І пайшла гаманкая гурма
Па дварах сабіраць вужышчы!
У дарозе іх сцягвалі з грузных вазоў,
Моцна звязвалі ў сорак тугіх вузлоў.
Пачапілі грузіла — гару-валуна
І пялёхнулі ў бездань з чаўна.
Глыбіня разматала, глынуўшы, віткі.
Дзядзька следам руку —

---

* Бяздоннае — возера, якое знаходзіцца на тэрыторыі Слонімскага раёна.

Не хапае рукі!
У паданні дзівосная праўда відна.
Ёсць глыбіні, ў якіх мы не вызналі дна.
Над Бяздонным сівеюць, як вякі, камяні:
Колькі, колькі пад імі маёй даўняй радні!
Праслявянскія могілкі!
Пакланюся я вам,
Скамянелай, забытай калысцы славян…
Бяздоннае!
У цябе і ў гісторыі мы — не бяздомныя!
Абмывала паўстанцам ты ногі босыя.
Ля кастроў дымнай юшкай карміла абозы!..
Хваля ўсплёсне, як памяць:
Бяздоннае!
А ўваччу — партызанскія ночы бяссонныя,
Пераходы бясстрашныя
І, як помста святая, бясстомныя…
Бяздоннае!
Ты, як жыццё, да краёў паўнаводнае.
Колькі сцюдзённых вытокаў пояць вадою!
Ты не ўсыхаеш, як тысячы год, маладое!
Плынь вякоў праз цябе плыве.
І ў празрыстай глыбі-сіняве
Б'юць-віруюць крыніцы прадоння.
І пакуль з-пад зямлі будуць біць —
Будзе жыць і маё Бяздоннае!

## Асвячэнне крыніцы

Пачуўся песняспеў… Ці я ў бары,
Ці ў шматкалонным залатым саборы?
З Жыровіч тры у рызах святары



Асвечваюць крыніцу ў шатах бору.
У зладжаным іх хоры, як бруя,
Хвала плыве ў мажоры:
— Ра-дуй-ся!
У мілагуччы быццам растварыўся я,
Дух над жывой вадой раскрыліўся!
Струмень б'е з-пад карэнняў, з жарала
Спакон з пластоў
лясной замшэлай кручы,
Каля аселіц слыннага сяла,
Адкуль здавён — і мой выток гаючы!
Вялікая Кракотка!.. Пяць крыніц
Трывожна змалку праз мой лёс бруіцца.
Ды больш я прыпадаў дрыготка ніц
Да гэтай, да Скуратавай крыніцы*.
Над ёй галіны ў банціках і стужках,
У крыжыках, заломах і вузлах.
Анёламі над імі крылы птушак
Прэч гоняць цені немачы і зла.
Гаіўся ў той крыніцы боль вайны,
Мяшаліся з бруёю кроў і попел.
А колькі сумных костак груганы
Здзяўблі пад шатамі над ёй употай!
Кружылі «вораны», як колісь віжы,
І парадзела слыннае сяло…
Як ты ў стагоддзях,
люд мой родны, выжыў?
Са тла ўставаў і падаў зноў у тло.
Тры святары у сцішаным маленні
Глядзяць, як жвір варушыцца на дне.

* Скуратавая крыніца — крыніца каля вёскі Вялікая Кракотка, вада з якой лічыцца гаючай, асабліва для вачэй.

Ахвярны плён змагарных пакаленняў
Свяшчэннадзейства ваша
хай кране!
Прашу вас, пасярэднікі нябёсаў,
Малітвай напатольце вы крышталь
Крыніцы спадчыннай,
каб срэбра хваль
Нашчадкам стала — як мацунак лёсу!
Няйнакш, вяшчунна ўзнёсся ваш мажор:
— О, ра-дуй-ся!
Гаючасць ад напасці
Адсюль — і праз жыровіцкі сабор —
Нясе крыніца ў свет,
нібы прычасце!





## МІКОЛА АЎРАМЧЫК

*(1920)*

### Чамяры*

Дзе Валобрынка** ледзь льецца,
Шчары поўнячы віры,
Басаногае маленства
Выняньчылі Чамяры.
Вёска гэта, як ні дзіўна,
Неймавернаю цаной
Вырасціла для радзімы
Вартых пахвалы сыноў.
Генералаў і вучоных,
Што праходзяць праз гады
І са славай заручоны
На радзіме назаўжды,
Журналістаў і паэтаў,
Што шануюць радавод
І ўслаўляюць вёску гэту
На працягу многіх год…

---

* Чамяры — вёска ў Слонімскім раёне.
** Валобрынка — рэчка, якая працякае каля вёскі Чамяры.



## ДАНУТА БІЧЭЛЬ

*(1938)*

### Гальяш Леўчык*

Пытанне з мінулага ў яву
Вяртае, ледзь вочы заплюшчу:
Чаму ён уцёк у Варшаву,
А не ў Налібоцкую пушчу?
…Чупрына капа… З дабратою
На нас пазірае лагодна.
Лячуся яго прастатою,
Жыве яшчэ «Чыжык»** ягоны.
Між часу ніякай заслоны,
Купала прыехаў у Слонім.
Заходзіць да сябра на каву…
Чаму ён уцёк у Варшаву?
Партрэт з маладой Зоськай Верас***
Перад вялікай стыхіяй,
Калі гартавалася Вера
У згублены край настальгіяй.

---

* Гальяш Леўчык (1880–1944) — слонімскі паэт.
** Маецца на ўвазе першы зборнік вершаў Гальяша Леўчыка «Чыжык беларускі» (1912).
*** Зоська Верас (1892–1991) — беларуская пісьменніца і грамадская дзяячка.

…У птахаў жыццё на скрыжалях.
Разбураны гнёзды без жалю.
На душы паэтаў аблава
Згубіла без вестак Варшава.

### Жыровічы

Залезла на грушку,
Злавіла жар-птушку…
Слязой патушыла агонь з-пад крыла…
Агністай жар-птушкай Краіна была…
Нябёсы сівыя, загоны крывыя…
Краіну назвалі шляхотна Крывія…
Крывія — бо злеплена з роднай крыві.
Як хаты не маеш, дзе хочаш жыві.
А белая — смерць, а русь — гэта кроў.
Усё ўперамешку ў людзей і ў звяроў.
З-пад грушкі бруіцца крыніца Жыроўка.
Крынічнай вады напісалася кароўка,
Святым малачком напаіла дзяцей:
Слабы не дарос, а смелы ўзрасце…
Раней тут балоты смакталі рагатых,
Цяпер тых чарцей рассялілі па хатах.
Цвіце тут палын, гэта Божае дрэўца,
Хто Маці даверыўся, той прыжывецца.
За Божаю маці ідзе ў Галілею.
А хто не даверыўся, той камянее.

## Плач па Рудольфу Пастухову*

*Памяці паэта і сябра, які пахаваны ў вёсцы Заверша за Жыровічамі*

Нарэшце ў Завершы** — завершаны…
Смугой белы вечар завешаны.
З зоны выйшаў у чыстае поле.
Але чыстае поле — не воля…

Шэсць сотак на горцы — апошняя зона,
ускапана, праполата, благаславёна…
Дзе бацькоў расстралялі, там цярпеў, як нямы.
Ты прыбіўся да Слоніма — меншай турмы.

З Яраслаўля*** дайшоў да «Пагоні» Максіма****.
Стаў у першым шарэнгу сярод змагароў.
У Курапаты***** ў калоне ішлі мы!
Ты прывозіў у Гродна грыбы з Чамяроў.

Падкасіла — узняўся на стромыя вежы
за цудоўнай Жыровай, у Божым застрэшшы…
Каля стромай гары ў прыціхлым Завершы —
у пясок залаты, у прарочыя вершы…

---

* Рудольф Пастухоў (1936–1997) — слонімскі паэт, грамадскі актывіст, пісаў вершы на рускай мове, выдаў адзіны зборнік паэзіі «Судьба» (1994).

** Заверша — вёска ў Слонімскім раёне.

*** Яраслаўль — горад у Расіі.

**** Размова ідзе пра Максіма Багдановіча (1891–1917) — класіка беларускай літаратуры.

***** Курапаты — лясны масіў на паўночным ўскрайку ў Мінску, дзе былі выяўленыя масавыя пахаванні людзей, расстраляных НКУС у 1937–1941 гадах.



Не развеецца ў порах магутны твой дух.
Ты адтуль і паклічаш, разгубленых, нас
пад любоўю завершаны іканастас…
У нябёсы да Пастыра. Сам ты — Пастух.

Часта білі пад дых, не шкадуючы, гады…
Пацямнела — ты ўбачыў Дарогу ясней.
Пахаваўся ў Завершы і стаў нашым братам…
Не прышлюць нам паэта, салдата мацней…





## ІГАР БУРСЕВІЧ
*(1949)*

### Мой родны Слонім

Мой родны Слонім, як бягуць гады,
І кожны год у сэрцы аддаецца.
Люблю глядзець, калі цвітуць сады
І не магу з гадамі наглядзецца.

Спачатку палыхне гарэзны бэз
Рэкламнаю афішай белацвету,
Затым трыумф садоў, пявучы лес
Карону ў чэрвені накіне лету…

Вішнёвы Слонім, жаўруковы край,
Стаю адзін над Шчарай задумёнай,
Бо сонца закацілася за гай,
Заціхлі побач маладыя клёны.

Рассыпаныя зорачкі, як ртуць,
Сваім зіхценнем нам даносяць штосьці:
Ды мараў прамільгнуўшых не вярнуць,
А мне прыемна збочыць на Замосце*…

* Замосце — назва аднаго з раёнаў Слоніма.

О, гістарычны, незабыўны час,
Дзе супакоіўся бруснічны вечар…
І я ізноў шапчу ў каторы раз:
«Да пабачэння, Слонім, да сустрэчы!»

### Калыска

Куточак маляўнічы,
Чарнічныя бары,
Ганькі і Хадзявічы,
Грынкі і Чамяры*.

Тут ранкам над лугамі
У летнія часы
Гучалі з жаўрукамі
І нашы галасы.

На сініх плёсах Шчары,
Сярод яловых крон
Пакінулі мы мары
Сваіх юнацкіх дзён.

Амаль да Ваўкавыска —
Узгоркі і палі;
Літвы старой калыска
На слонімскай зямлі.

* Вёскі ў Слонімскім раёне.

## Валобрынка

Невялічкая рачулка
Між пагоркаў круглы год
Плешчацца ў даліне гулка
Без зазнайства і турбот.

Вада пырскамі бруіцца,
Пад карэннямі шуміць,
Як лясная чараўніца,
Не жадае адпачыць.

Ці прытуліцца да вёскі,
Ці ўцякае напрасткі,
Ляцяць срэбныя пялёсткі
На каменні і пяскі.

І даносіцца здалёку
Меладычны яе звон;
Гэта Шчары светлавокай
Шле Валобрынка паклон.

* * *

Запрашаеш ўсіх у госці
Да знаёмых нам мясцін:
У Жыровічы, Замосце
І ў сядзібу Альбярцін.
Толькі тут заўсёды сэрца,
Сярод велічы бароў,
Жаўруком таемна б'ецца
Разам з жартамі сяброў.



## На Бяздонным возеры

Калі хочаш летам сонца —
Не спяшы ў заморскі край,
Бо і ў нас яго бясконца,
На здароўе — загарай.
Ціхай ласкай на Бяздонным
Хваля ў сонны бераг б'е,
Адпачынак стаў тут модным,
І платва часам клюе.
Гэта наш прыродны помнік,
Таямніца даўніны
І стаіш, нібы паломнік,
Ля радзімай стараны.
Нам на многія пытанні
Адказ спадчына не дасць,
А ў душы жывуць жаданні —
Цуд прыроды разгадаць.
Працякае пласкадонка
На Бяздонным ў цішыні,
Падары яшчэ, старонка,
Для спаткання два-тры дні.

* * *

Рамантычная сустрэча,
Вось ён — родны краявід:
Васілевічы, Парэчча*…
Адплыла туга ў нябыт.

---

* Вёскі ў Слонімскім раёне.

Толькі позірк — і звычайна
Льецца радасць без маны,
Неразгаданая тайна
Найвышэйшае цаны.

Відаць, доля ў нас такая,
І спаслана яна звыш…
Сэрца жар-птушкай гукае,
Бо Парэчча мне — Парыж.

## Васільковая радзіма

Мілагучная старонка:
Скрыпка, бубен і гармонь.
Падпявае Шчара тонка
І шапоча лісцем клён.

Начным водарам язміну
Ліпень да канца прапах,
Ці пагорак, ці нізіна —
Ўсё прыстойна ў Чамярах.

Васільковая радзіма,
Незабыўны мой куток
І таму мне немагчыма
Закрыць сэрца на замок.

## Успамін

Вельмі хутка лятуць вёсны,
Як ў Валобрынцы вада,
Сівізны цяпер нямала,



Пабялела барада.
На падоськаўскіх сцяжынах
Сярод соснаў і лугоў
Ручаём юнацтва мары
Выцякалі з берагоў.
Звонкім гоманам і смехам
Весялілі гай і дол,
І ганялі да цямрэчы
Не адзін толькі футбол.
Край жаданняў, добрых казак
І надзей светлых акно,
Дзе і неба сіней высі,
І пяшчотней Шчары дно.
Дзе з дзяўчынкай самай лепшай
Ад вячэрняе зары
Сваю зорку сустракалі,
Калі спалі Чамяры.
Сёння кліча зноў мястэчка,
Як славуты паланэз,
Дзе спакойна журчыць рэчка
І шапоча тайны лес.
Нас нясе жыцця цячэнне
На працяг вольнай вады,
Ці ад радасці падхопіць,
Ці закруціць ад бяды.
Берагі нашы далёка
За туманам сініх дзён,
Сэрца рвецца ціхім рэхам
Ў родны Слонімскі раён.



## АНАТОЛЬ ВАЛЮК

*(1961)*

### Друкарня Агінскіх у Слоніме

Руссю, «белаю плямаю»
Называцца нам годзе.
Пад сівымі курганамі
Славы дрэмлюць стагоддзі.
Слухаць нават да гонару,
Як пра што фантастычнае,
Пра Агінскага оперу
І друкарню музычную.
Па ягоных выданнях
Для натоўпу, ці публікі,
Зноў вядуць выкладанне
Тэорыі музыкі
У Еўропе, Амерыцы, Афрыцы, Азіі,
Падручнік, што некалі, з нейкай аказіі,
Свет пабачыў у Слонімскай тыпаграфіі,
Маецца ў кожнай музычнай парафіі.
Ён малітоўнікам тры ўжо стагоддзі
Ў іх асяроддзі.
У музычнай друкарні князя Агінскага
Друкаваліся творы і ксяндза Карпінскага*,
Які пахаваны пры касцёле ў Лыскаве**,
Што разбураны часу вятрыскамі.
Там, у скляпенні мураванага шалаша,
Дрэмле паэта душа…
Яго ж літургічныя творы
Гучаць у кожным саборы.
Узнёслыя гукі арганаў
Лунаюць пад зводамі храмаў,
Кранаючы сэрцы і душы,
Бароняць ад крывадушша.
Голас сярэднявечча
Слухай жа, чалавеча!
Голас мальбы без меры,
Голас любові, веры.
Колеры, словы, гукі
Збавяць ад вечнай мукі.



---

* Францішак Карпінскі (1741–1825) — рэлігійны дзеяч, польскі паэт, адзін з пачынальнікаў польскага сентыменталізму.

** Лыскаў — даўняе мястэчка гістарычнай Ваўкавышчыны, вядомае сваім замкам. Каля мясцовага касцёла знаходзіцца магіла ксяндза Францішка Карпінскага.



## ІРЫНА ВОЙТКА

*(1961)*

### Шчара

Ціхая мудрая Шчара,
Вясніца ранняй вясны.
Ты скрозь лугі і імшары
Коціш, гартаючы дні.
І навяваеш пяшчоту,
І абуджаеш любоў.
Стану ў поўдзень употай
Я ля тваіх берагоў.
Болей не бачу я выйсця,
Як на цябе мне глядзець.
Восені леташняй лісце
Будзе на хвалі ляцець.
Ціхая мудрая Шчара,
Вясніца ранняй вясны.

* * *

А на плошчы Сапегі* — дождж.
А на плошчы Сапегі — слота.
Ад Ружанскай да цэнтра мяне
Атуляе адна адзінота.
Не згубіць мне на вулках яе,
Не пакінуць у цеснай краме.
Адзіноце мяне нестае,
За маімі стаіць плячамі.

### Свята-Троіцкай царкве ў Слоніме

А храм стаіць,
А храм жыве.
Высокі звон у ім пяе.
Стаіць ён век, і два, і тры,
А побач з ім — яго муры.
А ты не храм,
Ты — чалавек.
Табе не дадзен нават век.
І колькі вызначана жыць —
Няхай твой шлях праз храм ляжыць.

---

* Леў Сапега (1557–1633) — адзін з найбольш уплывовых дзеячаў Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай, былы слонімскі староста. Адна з плошчаў Слоніма носіць яго імя.



## ЛАРЫСА ГЕНІЮШ

*(1910–1983)*

### *З ЦЫКЛА «ЖЫРОВІЧЫ»*

* * *

Прыехаць у Жырова лёс мне выпаў,
дождж хрысціць голаў грэшную маю.
І я пад голлем шматвяковай ліпы
пільгрымам сціплым сцішана стаю.

Святыні побач белыя, як дзіва,
ў абдымках хмараў і высокіх дрэў.
Ідзе святар, як галубочак сівы,
стаміўшыся, на лаўку хтось прысеў.

Сюды травой, аброшанай і мяккай,
на цудатворны пераможны кліч
прыходзяць людзі з горам і падзякай.
Людскія душы ачышчае зніч.

Перада мной зямля мая святая,
тут у паклоне дрэвы над вадой,
дзе галубы бясшумна пралятаюць,
ступала Маці Божая па ёй.

Не знатныя, а пастушкі віталі.
Да нас прыйшла ў вясняны дзень знарок
і Краю міламу, каб лепшымі мы сталі,
пакінула на дрэве абразок.

Над намі храм, туманныя нябёсы.
Крынічанька пад храмам б’е з зямлі.
Як пастушок у світцы белай, босы,
стаю, і слёзы твар мой залілі.

Адданасцю стукочуць нашы сэрцы
з крыніц благаславенных праўду піць.
Мінуласці святой з зямлі не сцерці
і веры ў Бога ў сэрцы не спыніць.

Жыровічы, славутая мясціна,
здаўна пралажаны для нас дзядамі шлях.
Малітвы боль ў нялёгкую хвіліну
мы на тваіх складаем алтарах.

Хай будзе мір, і згода будзе ўсюды.
Ды калі грозьбай азарыцца сінь, —
нашай зямлі, дастойнай Тваіх цудаў,
ў сваёй апецы, Божа, не пакінь!

* * *

Жыровічы — святы для нас куточак,
Дзе цэрквы ў неба вежы узнялі.
На дрэве Маці Божай абразочак —
Благаслаўленне для маёй зямлі.

Чужыя ў нас былі паны, вяльможы,
З цяжкое працы жыў стары народ.

Жыў ён з любові, з ласкі Маці Божай,
Якая з ім была ў часы нягод.

Сягоння з хмараў дождж на зямлю выпаў,
Ступаю моўчкі па святой зямлі.
Благаславі мяне, старая ліпа,
І ад ліхога голлем затулі.

Вякі ты маіх продкаў затуляла
І ад набегаў, войнаў сцерагла.
Я ля цябе — і спакайней мне стала.
Упэўнена стаю каля ствала.

Свая душа, з гэтага я роду,
Прыйшла к табе сягоння, як у сне.
Ты папрасі айцоў сівабародых,
Хай у малітве ўспомняць пра мяне.

Дождж не сціхае, ўсё навокал мокне.
У Жыраве я сёння першы раз.
Шкадую сэрцам, што не пастушок я,
Які убачыў той святы абраз.

Мне цяжка у жыцці было — за тое
Дай мне пачэсна на зямлі пражыць.
З крынічкі напаі мяне святое,
З якой так прагну тваю праўду піць.

О Маці Божая! Ты — ласка у цярпенні,
Прамень святла, што праз вякі не згас,
На голаў грэшную маю пашлі збавенне
І будзь пры мне ў жыцця адказны час.

Хай будзе мір і ўсюды Твая воля,
І Бог — Твой Сын — распяты на крыжы.



Стары народ наш не пакінь ніколі
І ад нягодаў землю сцеражы!

## У Жыровічы

Ляцяць з выраю птушкі, гамонячы,
Прыпадаюць крылом да бяроз.
Завязіце мяне у Жыровічы,
Гдзе ўладарыць Марыя з нябёс.
    Там святымі малітвамі, спевамі
    Дзень вітаецца ў храмах святых.
    Галубы пралятаюць над дрэвамі,
    Зззяюць промні з крыжоў залатых.
Маці Божая, Багародзіца,
З дабрыні ўся і са святла,
Ты з’явілася у Жыровічах,
Калі груша бела цвіла.
    Твая з’ява — святая спадчына,
    Ты прыйшла да нас ў час цяжкі.
    Абразок Твой першымі ўбачылі
    Басаногія пастушкі.
Прастадушныя і сардэчныя,
На аблічча Тваё глядзяць.
Вось такія, як ў яслі з авечкамі
Прыйшлі Сына Твайго вітаць.
    Калі цяжка ў жыцці становіцца,
    У час пакутны для нас і круты,
    Мы ідзём да Цябе ў Жыровічы,
    Ў Твой прыпынак Божы, святы.
За любоў к Табе ўсюды гнаныя,
Папраз цемрадзь, што навакол,

Йдзём к Табе са сваімі ранамі,
Нясём крыўды з забытых сёл.
    Сэрца Божае, сэрца матчына,
    Літасцівае да людзей,
    Нясём просьбы к Табе гарачыя,
    Дапамогі просім ў бядзе.
Ў нашых храмах дзверы зачынены,
Не пускаюць нат на парог,
Цемрадзь глуміцца над Святынямі,
Топча душы, ў каторых Бог.
    О Прачыстая, Непераможная,
    Дорыш людзям святло і любоў.
    З намі вечна будзь, Маці Божая,
    Што прыйшла калісь да пастушкоў.
Нас зрачыся Цябе не прымусілі,
Нам не страшна цярпенняў, нягод.
Маці нашая, Беларуская,
Сцеражы наш пакутны народ.
    Ў дні ліхія, у дні трывожныя,
    Калі здзеку столькі і зла,
    Ты вядзі нас сцежкаю Божаю,
    Да дабра вядзі, да святла.
Сілу ўлі Ты у сэрцы нашыя,
Каб нас ворагі не змаглі,
Каб маглі мы ў хвіліну цяжкую
Быць людзьмі на сваёй зямлі.
    Прад Табой на каленях стоячы,
    Бачым свет, калі ўсюды цьма…
    Ласкі, праўды шукаем ў Жыровічах,
    Бо навокал яе няма.



## ЮРКА ГОЛУБ

*(1947)*

### Слонімскія настроі

*Алегу Лойку**

Ачунялі кроплі і лісткі,
І не ўседзець радасці на ўслоне.
І ляціць пагудка напрасткі:
Не мінуць бы неспадзеўкі Слонім.
А ў Слоніме
Дыму шмат у коміне.
Трэсне раптам комін —
Задубее Слонім.
Ды на лабазоўскіх вільчаках
Скрозь шпакоўні цешацца маёва.
Ходзіць школа ў лёгкіх пінжаках,
І шынель цяжэе для маёра.
На гадоў прысады падаў квет.
І крышталь садоў быў стагалосым.
Пеляніцын** кідаў гарсавет,

* Алег Лойка (1931–2008) — беларускі паэт, літаратуразнавец, прафесар, доктар філалагічных навук, родам са Слоніма.

** Васіль Пеляніцын узначальваў Слонімскі гарсавет у 1963–1975 гадах.

Каб адслухаць веснія дзівосы.
І пры тым пры ўсім грыміць трава,
Нібы не асфальт тут — шлях у полі.
Як жа гэты міг уратаваць? —
Шчара носіць хмарку у прыполе.

## Слонімскі апокрыф

Здубелы ў дзёгці і саломе,
Дзе сверб пад'юджвала карчма,
Ляйчыну Шчары тузаў Слонім
І шлях скаромны скарачаў.
Рудая масць мясіла плешы,
Драпежнік пер'е драў з нябёс
І д'ябал попел з галавешкі
Ружанскай пушчы ў вока трос.
Французам, збэшчаным, салёна
Піхаць гармату ў кроў і роў:
Ляцелі конныя праз Слонім
І пеша пхнуліся дамоў.
Хапала одум за бароды
Галота, прагная да меж,
Як здань, скалечаным барока
Палац апёрся на капеж.
І праваслаўны, і католік,
Заўчасна зніклы уніят
На смык не мелі каніфолі,
Дык ім не Слонім вінават.
Распорваў краю перавясла
З пляскатым бляскам жорсткі штык,
А лес з рукой на перавязі
Засеў з чыгункай упрытык.



Не дацца вынішчыць пад корань —
Зарокам бляшыў зрок і ўрок,
Ламалі парту бездакорна,
А парта ўпартая знарок.
З адчаем зайздрасць спалучалі
І пешадрал, і генерал,
Калі над Прагай сланімчанін
Францыска* след ганараваў.
Схуднелі ў пошуку сыноўнім
І архізнаўца, і шкаляр:
Не могуць Слоніму сінонім
Знайсці праз боскі акуляр.



* Францыск Скарына (1490–1551) — беларускі і ўсходнеславянскі першадрукар, асветнік-гуманіст, пісьменнік, грамадскі дзеяч, прадпрымальнік, вучоны-медык.



## ЛЕАНІД ДРАНЬКО-МАЙСЮК
*(1957)*

### *З ЦЫКЛА «СЛОНІМСКІЯ ЭКСПРОМТЫ»*

#### «Лясны»*
*(Чытаць разам з дзеткамі)*

Мы крыкнем і запомнім:
«Хай радасць палымнее,
І хай квітнее Слонім,
І Мінск няхай квітнее!
Ды з большаю надзеяй
З вясны і да вясны
Хай лагер наш квітнее
Пад назваю «Лясны».

#### Навасёлкаўскі

Жывіце, Навасёлкі**,
Жывіце ў кожны міг

---

* «Лясны» — аздараўленчы школьны летнік у Слонімскім раёне.
** Навасёлкі — вёска ў Слонімскім раёне.

У колеры вясёлкі
І ў зорках залатых!

#### Міжэвіцкі

У слаўных у Міжэвічах*
Танцуйце і спявайце —
Чытайце Караткевіча**,
Чытайце Ніл Гілевіча***
І «Верасень»**** чытайце!



---

* Міжэвічы — вёска ў Слонімскім раёне.
** Уладзімір Караткевіч (1930–1984) — беларускі пісьменнік.
*** Ніл Гілевіч (1931–2016) — народны пісьменнік Беларусі.
**** «Верасень» — літаратурна-мастацкі часопіс, які выдаецца ў Мінску.



## ЗЬНІЧ
*(1939)*

### Шлях да Жыровічаў

…Жыровічы…
… тут — сэрца Беларусі…
Тут — Маці Божая прыйшла да нас —
Ўнаявіла Ікону — другі раз, —
Калі усе былі ў тузе і скрусе…
…Ікона Цудатворная — жыве!..
І з веку ў век — па веры і малітве —
Дае палёгку — у жыццёвай бітве —
У ім, хто прыцякае да Яе…
…акрыліцца — хто на малітву стане…
Каля Яе — й нябожчык можа ўстаць…
(…ёсць копія з Яе —
У Ватыкане… —
І ля Яе — таксама
Благадаць…)
…я кінуць грэшны свет сябе прымусіў —
Каб не згубіцца ў думках і вяках…
…Жыровічы…
… тут — сэрца Беларусі…
І да яго — у кожнага — свой шлях…

* * *

…Калі ты і плоццю, й душой нездароў
І боль твой суняцца не можа —
Успомні, што ёсць жыватворны Пакроў
Жыровіцкай Маці Божай…
…Калі абяскрыльвае бедстваў цяжар
І скрусе гатовы скарыцца —
Ідзі і вазьмі сапраўды Божы Дар
Жыровіцкай цуда-крыніцы…
…Калі не адбіцца ад духаў ліхіх
І з процьмы грахоў не падняцца —
Малітваў прасі невядомых Святых
З сузор'я Жыровіцкіх Старцаў…
…і сэрца тваё легкакрылае йзноў…
Сусвет — трапяткі і прыгожы…
Бо вечна на ім — жыватворны Пакроў
Жыровіцкай Маці Божай.





## АНАТОЛЬ ІВЕРС

*(1912–1999)*

### Слонім — мой родны горад

Мной пражытае гора
Памяць мая беражэ.
Слонім, мой родны горад,
Ты мне за ўсё даражэй.
Ціхія воды Шчары,
Песні гарачы парыў.
Хто ў барацьбе не марыў
Аб шчасці мірнай пары!
Свецяцца зоры ярка,
Ў вокнах ярчэй — агні.
Будзе ў дамах і ў парках
Вечная радасць званіць.
Хай пражытае гора
Памяць мая беражэ.
Слонім, мой родны горад,
Ты мне за ўсё прыгажэй.

* * *

Па-над Слонімам стыне
Неба — сіні плакат.
Я стаю на вяршыні,
Над вачамі — рука.
Сонца ўсходзіць за лесам —
Іскры пырскамі ўвысь.
З-за зялёнай завесы
Ўдаль плывуць паплавы.
Можа, полк з атаманам
Тую даль варушыў?
Ці палотны туманаў
Разыходзяцца ўшыр?
І блішчаць, нібы пікі
(Усё гляджу з-пад рукі),
Сонца сыплюцца блікі
На праталкі ракі.
Полк з уяўнасці, чараў
Адышоў пакрысе.
І адкрылася Шчара
Ў непаўторнай красе.

### Валобрынка

Ці варт казаць, як многа значыць
Для нас крынічная рака?
Я ўспомніў рэчку дзён юначых,
Якая бегла ў хмызняках.
А колькі ракаў там вялося!
Вадзіліся і шчупакі.
Птушынае рознагалоссе

Ўзнімалася аж у блакіт.
Перамахнеш чыгункі насып,
Паклон раздоллю аддасі —
І апынаешся сам-насам
З прыродаю, як родны сын…
Цяпер Валобрынка не тая,
Не тая чыстая вада.
Туды і рак не завітае,
І шчупака ўжо не відаць.
Як быццам луг у каранціне —
Састрыглі дрэвы ўздоўж ракі.
І мне нібы падкарацілі
Жыцця кавалак, дзве рукі.

## Шумелі сосны

Шумелі сосны, з небам гаварылі,
Асіны ціснуліся між сасён.
Мы, пастушкі, у лесе не курылі.
Даўно было, здаецца, гэта сон.
Ішлі туды, нібы ў царкву лясную,
З забытых Богам родных Чамяроў…
А па тых дрэвах пілы паласнулі,
І выветрыўся, высах Мокры Роў.
Якую назву далі лесу-парку
Прапрадзеды практычныя наўздзіў!
Тут Каліноўскі* піў ваду ў прыпарку,

* Кастусь Каліноўскі (1838–1864) — нацыянальны герой Беларусі, адзін з кіраўнікоў нацыянальна-вызвольнага паўстання 1863–1864 гадоў.



Калі з «Мужыцкай праўдаю»* хадзіў.
Іду тым Ровам, думкамі напоен:
Як добра, што падняўся маладняк,
Што па пяску ступае ён на поле,
Спяшаецца, бо мала яму дня.
А дні ў гады складаюцца, як кніга.
Ужо, напэўна, цераз сотню год
Нап'ецца праўнук з той крыніцы мігам,
Бо лес ваду дастане для яго.

## Паэма пра Валодзю Бялько**

Добра па-над возерам
Птушцы салаўю…
Цягнікі ж развозілі
Маладосць маю.
Шлях мой ад Мяльканавіч***
Аж да Вільні лёг.
Дні ў бяздонне канулі,
Зараслі быллём.

* «Мужыцкая праўда» — нелегальная, першая беларускамоўная газета. Друкавалася лацінкай. Выдавалася ў 1862–1863 гадах на Гродзеншчыне.

** Уладзімір Бялько (1911–1933) нарадзіўся ў вёсцы Мяльканавічы. Вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі. У 1920–1930-х гадах змагаўся на Слонімшчыне за адкрыццё беларускіх школ. Выдаваў газету «Піянер», пісаў вершы. Закатаваны польскай паліцыяй у Касцянёўскім пастарунку. Паэма друкавалася ў зборніку А. Іверса «З пройдзеных дарог» (Мінск, 1970) пад назвай «Паэма пра камсамольца Валодзю Бялько».

*** Мяльканавічы — вёска ў Слонімскім раёне.

Зіхацелі росамі
Травы для каго?
Сталі мы дарослымі
Ў чатырнаццаць год.
Нізка хмары лазілі
Па густым аўсе.
Дзверы мне ў гімназію
Зачынілі ўсе.
— А чаму? — пытаюся.
Кажуць: бальшавік.
Можа, ты пакаешся?
— Не! Я не прывык!
Вось іду і думаю
Пра нягладкі лёс.
Вецер жменю дум маіх
Кінуў на быллё…
І цяпер не поўзаем —
Ў нас такая кроў!
Ганарымся доляю
Стойкіх змагароў.
Ў нас замнога шчырасці,
І не будзем ныць.
Дайце толькі вырасці,
Подлыя паны!
Мы ў змаганні выстаім,
Чорт вас пабяры!
А зара агністая
Ходзіць па бары.
Бачыць хачу вольную
Беларусь маю!
Нават кветкі польныя
Мне аб тым пяюць.
Адхіляю чорныя



Думкі ад сябе:
Не, мы не пакорныя,
Свой не спынім бег!
Можа, па-над возерам
Добра салаўю.
А паны вывозілі
Маладосць маю.

*

Прыціхшая вёска,
Прасвету няма.
І зоры як з воску,
І ўсюды зіма.
У ночы такія
Ідзе Дзед Мароз
З таўшчэразным кіем,
Што з лесу прынёс…
Салодкія мары
Авеяны сном.
Давай жа, таварыш,
Мы кола крутнём.
Каб ворагі палі,
Канаючы, ніц!
Над светам запалім
Мільёны зарніц!..
Бялюткая вата
Ляжыць на страсе.
І спіць сабе хата,
Ды спяць там не ўсе.
Хадзілі і ходзяць
Пад кронамі ліп
Рэдактар Валодзя,

Наменснік Піліп…
«Запалім над светам
Мільёны зарніц!»
Зірні на газету,
Таварыш, зірні!
І свецяцца вочы —
Гатоў «Піянер»!
Апошні лісточак!
— Выразны ці не?
— Выразны, выразны…
Каб толькі былі…
І клямкаю бразнуў
Маркевіч Піліп*…
Ад вёскі да вёскі
Хадзілі лісты
Пад зорамі з воску,
Ў тумане густым.
І вось секвестратар
Ляціць за парог,
Няўдалы аматар
На сала, пірог.
Глядзіш навакола:
Народ устае —
За родную школу,
За справы свае.
Глядзіш — і над краем
Родны наш сцяг
Душу пакарае,
Як сімвал жыцця.
І буйныя ветры

* Піліп Маркевіч — беларускі грамадскі актывіст на Слонімшчыне ў 1930-х гадах.



Калышуць яго
Над нашай планетай,
Як праўды агонь…
Нябачна, як струны,
Гудуць правады.
Не спіць пастарунак
Пад небам рудым.
Снуюць паліцаі
З пакоя ў пакой.
І старшы ў адчаі
Махае рукой:
— Нам многа работы…
Прашу прывыкаць! —
І ўдарыў ён ботам
У твар юнака.
Не плакаў Валодзя,
Ён рваўся ў палі,
Дзе сонца на ўсходзе
За кронамі ліп.
І думка ляцела
Да хатаў крывых,
А збітае цела
Ляжала ў крыві…

*

Плыве сонца без вясла,
Неба — мора сіняе.
Што вясна нам прынясла
З крыкамі гусінымі?
Хто званочкамі званіў,
Тонкімі, блакітнымі,
Над прасторам родных ніў,

Ў лузе над ракітамі?
Узнімаюцца ўгару
Думкі — птушкі вольныя.
А з паперай гавару —
Запісь пратакольная.
Ўзяць паэзіі уцёс
З баявымі вершамі!
Ды, здаецца, праз жыццё
Мой паход завершаны.
— Оля, сшытак мой вазьмі,
Захавай для памяці…
Расцвітаць будзе язмін
У вішнёвай замеці.
Паляцеў бы й я ўгару
За гусіным выраем.
Эх ты, рунь, зялёна рунь,
Нашы песні шчырыя!
Не хадзіць, напэўна, мне
Сцежкамі, балотамі
Па радзімай старане
З ранняй пазалотаю.
А так хочацца ізноў
Пырснуць зернем-золатам
І прайсціся баразной
Хлебаробам-волатам.
А так хочацца яшчэ
На сасну на стромкую,
Дзе вясна дываны тчэ
І ў цымбалы тромкае.
Зноў бы там павесіў я
Палатно агністае.
Беларусь, як той маяк,
Перад бурай выстаіць!..



Дзверы скрыпнулі. Чарга
Летуценняў збілася.
Перш вінтоўка-качарга
Праз парог ўвалілася.
Потым сунуцца яны,
Не пытаюць — можна ім.
Называюцца паны,
Ды яшчэ вяльможныя.
— Цо, не здыха камсамол? —
Хлопца б'юць прыкладамі. —
На спектакль прасіў дазвол
Перад панскай ўладаю?
Як лістоўкі раскідаць,
То паноў не бачылі?
— Праваліцца б вам, брыда,
Вылюдкі сабачыя!
Кат Бяжынскі зноў зароў,
Зноў прыклады ляскалі.
Палілася з горла кроў
Перад панскай «ласкаю».
Паплылі кругі ў вачах
Рознакаляровыя,
Толькі колер кумача
Ў сэрцы замураваны…
Першамайская пара —
Песня ўдаль пакоціцца…
Беларусу паміраць
Вельмі ўжо не хочацца.
Вусны шэпчуць, просяць піць.
Сілы перасілены.
Ой, не чуе маці, спіць,
Спіць пад крыжам схіленым.
— Оля, мілая, скажы,

Ці наш сцяг хвалюецца?
— Даражэнькі, паляжы,
Паліцай на вуліцы…
З рук лазовыя каткі
На падушку сцелюцца…
Добра з любым напрасткі
Выйсці за аселіцу.
Далей, далей па мяжы
Ў поле неабдымнае.
Хто са мною пабяжыць
Ў далі сіня-дымныя,
Дзе вясёлка цераз край
Мостам перакінута?..
Эй ты, мой цудоўны май,
Што ты мне пакінуў там?..
Пацямнелі ўжо кругі
Рознакаляровыя.
Пакідаю дарагіх…
Будзьце ўсе здаровыя…
Так загінула душа,
Маладая, чыстая,
Гэй, трымай раўнейшы крок,
Маладосць агністая!
Наша сіла ў маладых,
Сіла непахісная!
Гэй, шчыльней, шчыльней рады,
Каго доля ціснула!

*

Па правадах, па радыё
І песні, і салют.
І заўтра нас парадуе



Працоўнай славай люд.
Цяпер дарога простая,
Шырокая — ідзі!
Прыгожы шоўк выпроствае
Вятрыска-брыгадзір.
Пад гэтым сцягам сонечным
Прыемна дзетвары
Ў паходах, песняй звонячы,
І марыць, і тварыць!
У казку ўсе паверылі —
Ляці да самых зор!
Такая піянерыя,
Касмічны кругазор!
Але і дні мінулыя,
Пагібель юнака
Ўзнялі і ўскалыхнулі іх,
Як бурная рака.
І вось пад сцягам сонечным
Замерлі, не дрыжаць.
А ў сэрцы, моцна звонячы,
Распальваецца жар.
Імя дружыне дадзена
Таварыша Бялько!
— А песня?
— Будзе складзена
Над Шчараю-ракой.



## МІКОЛА КАНАНОВІЧ

*(1965)*

### На плошчы Льва Сапегі

Дзе помнік Сапегу мусіў стаяць —
Па-руску пазначана «Слоним».
Па-беларуску прыпынак назваць —
«Плошча Сапе<г>и» гаворым.

Б’е, быццам кій, выбуховае <г>
Па галаве год за годам.
Тая памылка ніяк не міне
І з новым аўтобусным ходам.

Зрусілі ўсё — не разабраць
Нават у гуках парадку.
І толькі рускае «ёпт…аць»
Фрыкатыўна гучыць без аглядкі.

На плошчы Сапегі — Сапегі няма.
Няма там ніякага знаку,
Што канцляр старостам тут быў нездарма,
Прыбыўшы з Ружанскага замку.

І так мае гонар няўрымслівы Леў —
Плошчу яму падгадалі!
Хоць Горкі Максім* заставацца хацеў
Безаглядна й навечна тут з намі.

А помнік?.. На помнік грошай няма.
І «г» выбухова ўзрывае,
Бо ўсё тут па-руску: турма і царква,
А новых Сапегаў не маем.

### На Грамніцы ў Востраве**

Вострава. Грамніцы.
Разбудзіў я хату.
Снег — да аканіцаў,
Намяло багата.
І хацяплюс двойку
Градуснік мне выдаў,
Снег я на падворку
Доўга шуфлем кідаў.
Сцежкі ўсе расчысціў —
Хай заходзяць госці,
Вып’ем па кілішку
Моцнага чагосьці.
Ды ніхто не прыйдзе —
Толькі паштальёнка
Дана «добры дзень» мне
Хутка скажа звонка.
З пенсіяй для маці
Я яе чакаю,

* Максім Горкі (1868–1936) — рускі пісьменнік. Раней плошча Сапегі насіла яго імя
** Вострава — вёска ў Слонімскім раёне.

У халоднай хаце
Вершам размаўляю.
Пасярод зіміцы
Ў маёй роднай вёсцы
Нават на Грамніцы
Цесна, як у лодцы,
Мулка ды бязлюдна…
Час застыў у снезе,
І каб тут застацца —
Ў галаву не лезе.

## Ноччу ў Слоніме

Я ішоў пад дажджом
У старым палітоне
У чужую кватэру,
Як вечны вакзал.
Я жыву там адзін
У бярлогу-прытоне,
Што часовым прытулкам
Надоўга мне стаў.
Дождж у твар. Ліхтары
Ў гэтым горадзе скралі.
І апоўначы цёмна,
Хоць вока калі.
Бо краіну наніц
Прадалі, абабралі,
А народ не заўважыў —
Зжабрачыў калі?
У старыя мае — па фірме —
Басаножкі
Дождж дабраўся вадой



І захлюпаў наўзрыд.
Я ішоў з вечарыны
І думаў пра ножкі,
Прад якімі упалі б
Парыж і Мадрыд.
Але ў нашых тутэйшых
«Палескіх Афінах»*
У адзіным начным
Задрыпаным шынку
Тыя ножкі купіў
За537 кактэйль з апельсінам
Той, каму б не падаў я
Ніколі руку.
А яшчэ, думаў я,
Галаву б да тых ножак…
Ды бракуе разумнай
У нас галавы.
І падраўся ушчэнт
Левы мой басаножак,
І набраўся, як гразі,
Я сёння сумы.

* * *

Якая вялікая Беларусь:
у Мінску снег, а ў Слоніме — пуста!
Толькі ў гародчыку белая гусь
дзяўбе прашлагодні качан капусты.

---

* «Палескія Афіны» — так заывалі Слонім сучаснікі Міхала Казіміра Агінскага.

І зелянее за хатай трава,
якой гэты студзеньскі дождж не халодны.
Ды рыфмаў шукае твая галава
да словаў, з такою зімой нязгодных.

* * *

*З нагоды выхаду «Слонімскага сшытка»* Ігара Бурсевіча***

Бурсевіча Ігара вершы
Зноў выдаў Сяргей Чыгрын***.
Зборнік даўно не першы —
Выбранае з усіх.
Паэт за ўласныя грошы
Дорыць кніжкі свае
Сябрам альбо нават басоце,
Што не чытае — п'е.
А затым чамяроўскі хлопец
У Балашысе зноў
Сабірае грошай аполец
На том вершаваных слоў.
У «Кнігазборы» нашым
(А не ў іх маскалёў)
«Слонімскі сшытак» важкі
У свет паехаў-пайшоў.

---

* «Слонімскі сшытак» (Мінск: Кнігазбор, 2015) — зборнік вершаў і перакладаў Ігара Бурсевіча.

** Ігар Бурсевіч — паэт з Чамяроў, былы вайсковец, жыве ў горадзе Балашысе (Расія).

*** Сяргей Чыгрын — беларускі літаратар, гісторык, краязнавец, журналіст, жыве ў Слоніме.



Яшчэ ў нашым Слоніме родным
Для многіх і для мяне
Паэзіі духам нязводным
Бацькоўскі наш край жыве
І жыцьме да скону веку
(Не важна вельмі чыйго),
Бо роднае чалавеку
Словам яго ўзышло,
У слове і застанецца,
Каб хоць аднаму каму
Тое слова сагрэла сэрца,
Як сонца Шчару-раку.





## УЛАДЗІМІР КАРАТКЕВІЧ

*(1930–1984)*

### Каб здзівіліс Чамяры

*Слаўнаму летапісцу краю Чаславу Чамярыцкаму**
*ад люду паспалітага*

Ад Аўраамкі** да Аўрамчыка***
Гісторыю за горб бяры,
І чэмер сып усім у вочы,
Каб аж здзівіліс Чамяры.

---

* Вячаслаў Чамярыцкі (1936) — беларускі літаратуразнавец, родам з Дзятлаўшчыны.

** Аўраамка — кніжнік-летапісец канца XV стагоддзя. Дакладных біяграфічных звестак пра яго не захавалася. Вядома, што жыў у Смаленску і склаў там ці перапісаў у 1495 годзе летапісны звод, які ўвайшоў у навуковую літаратуру як Летапіс Аўраамкі. Смаленск у той час быў у складзе Вялікага Княства Літоўскага і з'яўляўся своеасаблівым цэнтрам беларускага летапісання.

*** Мікола Аўрамчык (1920) — беларускі паэт.



## АЛЕСЬ КЛЫШКА

*(1948)*

### Скарбы

Скарбы паўсюль — то жыццё чалавечае,
Верш недапісаны — аркуш скамечаны,
Цацка, калыска — дзяцінства узгадана,
Бацькавы крыж да канца не разгаданы.
Дзённік пакрэслены — словы не сцёрты,
А хто пісаў, той жывы, а не мёртвы.
Ён распавёў, дзе закопаны скарбы,
Мапу пакінуў — не выцвілі фарбы.
І я дрыжачай рукой разбіраю
Літары, знакі — багацце ўяўляю:
Што набываю, яшчэ што набуду,
Іншым — заможным — нарэшце я буду.
Потым гляджу — то старонка радзімая:
Шчара, царква і мяжа недзялімая,
Вёсачка, школка і сцежка знаёмая,
Бруіць крынічка — чужым невядомая.
Дзесьці у лесе зязюля загукала,
Маці вядром каля студні загрукала.
Раптам ачнуўся — рука абвяла
Слова на мапе — СЛОНІМШЧЫНА.

## Жыровіцкія камяні

З зямлі паўсталі камяні:
— Нашто паклікалі заўчасна?
Мы пяць вякоў тут сцераглі
Алеся Солтана* прычасце.
Нашто вам гэты Божы кут,
Навошта аднаўляць святыню?
Бо я — камень — паўсюль і тут,
І колькі год, вякоў ні міне.
Не варушыце боль ў душы,
Не скрэбайце кайлом па сэрцы,
Пастойце моўчкі у цішы…
І дайце ціха мне памерці.
Адзін камень паўстаў уздоўж
На скрыжаванні Жыравіцкім,
Другі — нясхілены Хрыстос —
Узняў свой крыж у полі чыстым.
Тут аднаўляецца зямля —
Крывінка нашай Беларусі.
— О Маці Божая мая,
Явіся зноў, Табе малюся…
Хай жыватворная раса
Праступіць праз камень-ікону!..
Малюся, не пакінь мяне
Ад веку жыцця і да скону…

---

* Шляхціч Аляксандр Солтан, які ў другой палове XV стагоддзя, на месцы з'яўлення цудадзейнага абразка Божай Маці, пабудаваў першы драўляны храм у Жыровічах.



## АЛЯКСЕЙ КУМЕЙША

*(1915–1977)*

### Мой горад

Над Шчарай зялёнай
Да ўзлесся і вёсак
Разросся мой Слонім
Шырока, высока.
І люба, і ветла
Прайсці кожны дзень
Па вуліцах светлых,
Дзе праца гудзе.
Ва ўбранні вясновым
Глядзіць маладзей,
На вуліцах новых
Багата людзей.
І працы іх плёнам
Штодзень ганарыцца,
Уборам зялёным
У Шчару глядзіцца.
Ляцяць павуцінкай
Над горадам гусі,
Мой Слонім — часцінка
Маёй Беларусі!



## АЛЕГ ЛОЙКА

*(1931–2008)*

### На залатым перазове

*Урыўкі з паэмы*

#### *На Азярніцкім паўстанку*

Як я бег, каб сюды з Азярніцы*
На гудлівы цягнік не спазніцца,
А за мною, задзёршы спадніцу,
Марафоніла ўся Азярніца, —
Не, не вёска — мая сястрыца!..
Мне сталіцай была Азярніца,
Бо жыла тут мая сястрыца.
Бо настаўнічала, бы княгіня,
Як завочніца-філалагіня.
А ў Бяздонным рыбка гуляла,
Што на мой на кручок не папала,
Або ўвогуле не клявала,
Нас не злосцячы німала.
Дападаў да вагонных я дзверкаў,
І ў апошні разок, бы ў люстэрку,

---

* Азярніца — вёска ў Слонімскім раёне.

Азірнуты з падножкі вагоннай
Усміхаўся мой твар у Бяздонным.

#### *Грынкі*

Грынкі*… І ўспамінаецца палоска
Бульбяная
За ціхай, ціхай
Вёскай:
Прысела бульба —
Зеляніцца качкай,
Іду я з маці,
Маці ідзе з гачкай,
Ісці — не вельмі,
Божкай ці не божкай,
Акучвай гачкай,
Бо дзе возьмеш сошку?..
О, хоць бы возам хто
Маю звёз стому
Адсюль — за Касцяні**,
А з іх — дадому!..

#### *Міма Чамяроў*

Ах, як любім мы міма, міма,
Ні крышыначкі ў нас пілігрыма,
І ні кропелькі піетэту,

---

* Грынкі — вёска ў Слонімскім раёне.
** Касцяні — вёска ў Слонімскім раёне.

Бы не тут, а за морам — мэта.
Тут стаяла хата Паэта…
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Не бяжы ж, цягніку, па-цыганску, —
Мог музеем быць партызанскім
Хутар гэты — закутак гэты…
— Што яшчэ за такі закутак?!
Я не спыньваўся тут ніколі!..
— А як Іверсава падполле*
Рух спыніла на трое сутак?
— Не прасі, дзед, і не маліся:
Сеў не ў тую ты электрычку!..
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Над Валобрынкай засталіся
Кураслеп, быльнёг і дзічкі.

*Слонім. На жалезных мастах*

Дзень добры, дзень добры, родны!..
Мяне ці чакаеш ты?..
Разліў Шчары — звышмнагаводны,
Звышгудна гудуць і масты.
Душа ў гудзе тым ледзь не плача —
Ад шчасця, а не ў журбе:
Сябе ў цягніку гэтым бачу
Вачыма малога сябе.
І шум кол ягоных прасторны
Лаўлю запаўночнай парой

---

* Маецца на ўвазе Слонімскі падпольны антыфашысцкі рух у гады Другой сусветнай вайны.



На вуліцы ціхай Падгорнай
Пад ціхай зялёнай гарой.
Яго набліжэнне вуркотам
Было галубіным мне,
А гул, што раскрыльваўся потым,
Трымцеў дробнашыбна ў вакне.
Зліваліся ява і мроя,
І клікаў працяжны гуток
За вузкія сцены пакоя,
За брамы твае, гарадок…
І вось адусюль я вярнуўся,
Ды толькі з Падгорнай дасюль
Далёкі страчаю я гул усё,
Праводжу далёкі я гул.
Я сёння тут тым і гэтым
Пралётаю праз масты…
Мой горадзе, любы, светлы,
Дваіх сустракай нас ты!..

*Слонім. Пераезд на былой Віленскай вуліцы (цяпер Багратыёна)*

Як пуць гэты напалову
Мяне палавініць дзіўна:
Направа я — першамаёвы,
Налева — дзявятажніўны
(Першага мая радзіўся,
Дзявятага жніўня — жаніўся),
Направа — маці, юнацтва,
Налева — цешча, прымацтва,
Пятнаццаць мінут да маці,
Пятнаццаць — да каханай:

Праверыў на цыферблаце,
Абганяўшы світальны ранак!
Направа — зборы ў дарогу,
Налева — цешчы трывога,
Направа — сабор, дзе хрысцілі,
Налева — дзе быць магіле
Маёй каля Бядоткі
(Кароткі век? Не кароткі?..).
Направа — надзеі і мары,
Налева — ужо й чорныя хмары,
Сумненні, і засмучэнні,
І незагойныя раны,
А тут, як на перасячэнні
У самым цэнтры нірваны
На пераездзе былой Віленскай вуліцы!..

## *Слонімскія палігоны*

Слонімскія палігоны,
Беларусь — палігон:
Забраныя ў жыта загоны,
Забраны ў дажджоў святы плён.
Штоноч — зор расстрэл трасірам,
Штодзень — промняў сонца расстрэл, —
Падвышкі — камандзірам,
Магілы ўсяму, што мрэ.
Зоры — на пагоны,
Прасветы — на іх жа ў рад, —
Слонімскія палігоны —
Бяспраўя грымлівы парад.
А па якіх законах
Правіць бясконцы баль



Пагоннае і без пагонаў,
Генерал і не генерал?
Слонімскія палігоны —
Боль мой, мой плач, мой жаль,
Мой пачатак скону
І скону дрэў, кветак, хваль.
Канаем ужо паўвека,
І канае скон:
Беларусь — калека,
Беларусь — палігон.

## *Альбертын*

Мой язык бы ў зялёнай ціне
Паварочваецца, як крэтын:
«Вы откуда, из Альбертина?..»
А куды збег Альбертын?..
Можа, драма, а мо не драма
Адкрываецца з-за куртын:
Як жа звала сына мама,
Як зваў маму сваю сын?
Тын як тын, і трава — ля тына,
Ды даўно ўжо не я адзін
Альбертын заве Альбярцінам,
Хоць ніякі ён не Альбярцін!..

**Плач зямлі Слонімскай**
*Урыўкі з паэмы*

Нікому ніколі не дадзена знаць,
Дзе нарадзіцца, дзе сканаць.
Нікому ніколі не дадзена знаць,
Калі нарадзіцца, калі сканаць.
Нікому ніколі не дадзена знаць,
Кім нарадзіцца, кім сканаць, —
Ды ведаю я, знаю,
Кім, дзе, калі сканаю,
Любячы край свой родны,
Што гіне беззваротна.
Ды ў ім, любым і лядачым,
Не ўзняць не магу галаву:
Пакуль жыву, плачу,
Плачу, пакуль жыву.
Ды плач з вачэй ці высеку,
Ці крану душы
Вашай, з Разанаўшчыны Барысікі*,
Вашай, з Вераб'евіч Яршы?..
Мой плач — плач любві, па любові
Нябожчыкаў плач жывы,
Трывогі тое повен,
Што ў вырай нясуць журавы:
Азгінавічы, Сялявічы
Жылі, Бога сэрцам славячы,
Ламашы, Кастровічы
Жылі, суседзям наровячы,

* Алег Лойка прыгадваў з кожнай вёскі Слонімшчыны людзей з тымі прозвішчамі, якіх у вёсках раёна было шмат і якія былі вядомыя на слонімскай зямлі.



Не зруселыя, не спольшчаныя,
Жылі Шышкі і Сянькоўшчына,
З Навадзявяткавіч Крэчыкі
Жылі, няпраўдзе пярэчылі,
Як і з Шундроў Маскалікі,
Што зуб ні на кога не скалілі.
Жылі, дзетак хрысцячы, жэнячы,
Міжэвічы, Харашэвічы,
Жылі, словы шчырыя мовячы,
Бы ў Якімавічах Якімовічы,
Бы ў Какошчыцах Дабрыяны,
Рукавы закачаўшы старанна,
Талькаўскія негаротнікі,
Без Борцяў шчыравалі Бортнікі,
Рыбнымі тонямі рышчучы,
Нараставічы шчыравалі, Рышчычы.
Жылі, жыць, дабрэць муселі,
Бы ў Лапухове Мукасеі.
Не травой жылі, не кропамі,
Не сарокамі скублымі:
У Жыткавічаў — жыта копамі,
У Саламевічаў — сала кублямі…
Ды што за навала напала,
Смокча вампірна кроў:
Паўлавічы — без Паўлаў,
Пятралевічы — без Пятроў!..
Адкуль гэты віж прарваўся, —
Сэрца пішчом шчыміць:
Васілевічы — без Васяў,
Міцькавічы — без Міць!..
Агонія сёлаў:
Навасёлкі — без навасёлкаў,
Крыжам дошкі на вокнах,

Неба ад слёз мокне:
Меней людзей — меней двароў
І нат у Вераб'евічах — вераб'ёў,
Падстрэшкаў меней, загуменняў,
І ластавак руплівых меней.
Меней зязюль, і хто налічыць
Гадоў Задвор'ям, Камлявічам?..
Затое болей кані ўсхліпаў
Ля Юндзілаў і ля Барліпаў,
І драч, як плач сярод начы,
Дзе Вострава і Едначы,
І шугануў крыламі ў плач
За Акунінавам пугач,
А варання, а варання —
Не толькі ля Вароніч, —
Хто абароніць?!.
О, нацiск сілы ўраджай,
О, Боскія кары!..
Не прадухіліла ад вас ні Новая Стража,
Ні Сынковічы, ні Баяры,
Ні касцёл святога Андрэя,
Ні Ўспенскі Жыровіцкі храм,
Ні да капліцы Дамініка рэі,
Ні да Слонімскае Нотр Дам,
Не дапаможа грунвальдскі, шасцікутны
Крыж Сапегі, сапежанскі леў
Ад пошасці гэтай пакутнай,
З якой край млеў і калеў —
Касцяні — касцянелі
Пад волавам аблок,
Гарманістыя — нямелі
Філітовічы з Перавалок, —
І ўжо ад Нізоў да Блізной,



Ад Міроніма да Піроніма
Пад вярбой, дубам, сасной
Нязваныя слёзы ронім мы.
Няма незбалелай душы:
Край родны — не чужаніца —
Роняць слёзы ў Бабынічах Барташы,
Весялухі — з Хмяльніцы,
А вятры дзяруць нас, як венікі,
Выдзіраюць да каранёў:
Салаўёў з Гуменікаў,
З Глоўсевіч — Супруноў.
Сасноўка — без сасны,
Шчопці дабра ў Добрым Боры:
Сем буслянак пустыя сны
Сняць на могілкавым касагоры.
Сава гора кліча —
Савічы.
Вялікія, Малыя
Шылавічы, Кракоткі, —
Іх ужо не налічыш
Ні на якія, —
Хіба што на могілкі
Вялікія, Малыя!
Дзе вашыя агенькі,
Ганькі?..
Сярод немахновай начы
Слепнуць Махначы,
І не свецяць ясна — гаснуць знічам
Шыбы Ферадкоў, Парэчча, Камлявічаў…
О, Камлявічы, о разгон
Даліністы: да Нёмна ўдаль,
Хваль Шчары шэптны перазвон,
Што цінаю зарос амаль, —

Ёсць даль, і далі ўжо няма ж!..
Яна — маёй, яна — тваёй журбой, —
І тых, каго даўно няма са мной.
Быў з вамі і я забіты,
Маленства майго сябры —
Ля Чапялёўскага жыта,
На Пятралевіцкай гары.
Лоша, мой Гольберг Лоша,
І ты, Абрамовіч Абраша, —
Жыд, паляка не горшы,
Слонім жыдоў меў за нашых.
Без вас нас у бездань цягне,
Мілыя ізраільцяне,
Без вас, мілыя паляне,
Слонім, як кветка, вяне…
…Ісці да Бяздоннага ўпрочкі?..
Не пайду, як не пайшоў Арочка*!..
Мой Мікола, які ж ты трывушчы,
Бы ўскрай Ружанскай пушчы.
Тваё «Евангелле» — чорныя весткі —
Двух сыноў пахаваў і нявестку.
Твая «Біблія» — Беларусь палёў
Ад Крэва да Віскулёў.
І такога яшчэ нідзе не было:
Акадэмік вярнуўся ў сяло!..
…Хадзявіцкія Балі,
Менш за ўсё вы ў жыцці балявалі,
Ні Мішы, ні Сашы, ні Пеці
Няма ўжо даўно на свеце.

---

* Мікола Арочка (1930–2013) — беларускі паэт, літаратуразнавец, доктар філалагічных навук, родам з вёскі Вецявічы Слонімскага раёна.



Куды, аднак, вас ні кідала:
Нарыльск, Кіштым за Уралам.
Ды ў родны пясок не злёг
Ніхто з вас ля матчыных ног…
Нікому не дадзена знаць,
Дзе нараджацца, калі сканаць!..

## Посах душы

*Урыўкі з Жыровіцкай паэмы*

1

Стаяла ў лесе крыніца,
А ў крыніцы — вадзіца,
Над вадзіцай — груша,
Да грушы — душою рушу.
Рушу я да крыніцы —
Вады святое напіцца,
Рушу да светлае грушы —
Светла на грушу дзівіцца.
Між пастушкамі стану,
Малітву з сэрца дастану,
Пець, пакуль сілы хваціць,
Жыровіцкай Багамаці.
Свіціся, святая крыніца,
Свіціся, святая вадзіца,
Як на ўвесь свет свіціцца
Жыровіцкая Дзявіца!..
Жыровіцкая Багамаці,
Багаві нас у хаце,
Багаві ў дарозе.
І ў працы, і ў знямозе!..

Перад табою хілюся.
Табе, найсвяцейшай, малюся,
У неразвейнай скрусе —
З лёсам маёй Беларусі.
Разграшы нашы душы
Ля найсвяцейшай грушы,
Разграшы маё сэрца
Вадою з Твайго вядзерца.
Разграшы і памілуй,
Сэрцу дай моц і сілу,
Уваскрасі край мілы
З заўчаснай магілы.
Вечнасцю дай прычасціцца
Са святое крыніцы,
Дай Беларусі сардэчнай
Лёс, як сама Ты, вечны!

2

Бяздомны край наш без цябе,
Бяздомныя і сэрцы,
Ідзём к Табе ў журбе, жальбе
І ў ганьбе-паняверцы.
Ты нас пра дом наш не пытай
І не пытай пра душы:
Бяздомніць нас бяздомны край
І душы ў бездань крушыць.
І сэрцы, бы не сэрцы ўжо,
І кроў — не кроў, — вадзіца…
Ліпім сляпнём, паўзём смаўжом
І шэрхнем, як ігліца.
Вярні нам нашу ў жылы кроў,
Здымі з душы закляцце,



Вярні нам Спас. Вярні Пакроў,
Жыровіцкая Маці!
Малю ад гоману бароў,
Ад ніцай сенажаці:
Вярні нам Спас, вярні Пакроў,
Жыровіцкая Маці!..

3

Жыровічы мае —
Крыніц усіх крыніца,
Што з тысячагоддзяў б’е,
Каб піць людзям, не напіцца!..
Жыровічы мае —
Між дрэваў дрэва святое,
Што крону ў засвет віе,
Карэнні ў нетры тоіць!..
Жыровічы мае —
Між зораў зор прамяніісцей,
Дзе кожная брама ўстае
Да Матчынай Светласці выйсцем!..
Жыровічы мае —
Крыж залаты ў нябёсах,
Што Бог сам з праменняў куе.
Як вечны ў Шлях Млечны посах!..
А цішыня пяе
Над Шчарай і ў леты, і ў зімы:
«Жыровічы мае —
Вы — лёс мой, мая Радзіма!..»

## Юнак быў з-пад Слоніма родам...

*Балада*

Юнак быў з-пад Слоніма родам,
У Слонім прыйшоў сувязным.
Пазнаў яго солтыс-нягоднік,
Данёс у гестапа аб ім.
Юнак адпіраўся, нібыта
У Слоніме ён першы раз;
Прыехаў на рынак, па жыта,
Завуць жа — Іван Сарвас.
«Сарвас?! — глушыць гумай, як громам. —
Ты думаеш, дурняў знайшоў?!
Ад солтыса нам вядома:
Ты — Сцёпа Юргель з Байкоў...» —
«Юргель?.. Пра такога не чуў я!
Байкі?.. Не быў у Байках!»
Дзень, ноч гестапа лютуе,
Дзень, ноч б’е юнака...
А хлопец нічога не кажа...
Задумаўся оберст тады,
Ашчэрыўся оберст: «Гэй, стража,
Даць маці яго сюды!»
«Матуля?!. Яна...»
Стаяла
Без хусткі, уся ў сівізне...
«О, толькі б яна не сказала...
Не пазнавай мяне!..»
«Ну, матка, просім, сядайце!..
Ён — сын твой?.. Ён клікаў вас...»
Ледзь чутна шаптала маці:
«Я бачу яго... першы раз!»
Оберст вушам не верыць,



Оберст не верыць вачам —
Маўчаць у паўзмроку шэрым,
Маці і сын маўчаць...
«Прыгледзься лепей, старая!..
Дык, значыць, сын не твой?..
Гэй, стража, сабаку з двара іх
Пусціце сюды ў пакой!»
Вялізны пёс віславухі
Наёршыў на оберста поўсць.
Пасля, скавычучы глуха,
Да ног Сцяпа папоўз,
Хвастом завіляў і рукі
Сцяпану лізаць пачаў...
«Гут», — оберст здаволена буркнуў.
Сцяпан зацята маўчаў.
Расстрэльвалі іх уранку —
Маці і сына з Байкоў.
Быў разам з імі сабака,
На крок ад іх не адышоў.
Калі ж і яго падкасілі,
Ён, перш чым навек анямець,
Завыў яшчэ раз на магіле
Аб тым, што не змог зразумець.

## На Пятралевіцкай гары*

Мне памяццю нявінных даражыць,
Курганам гэтым з імі я з’яднаны:
Бацькі мае, што засталіся жыць,

---

* Пад гэтай гарой каля Слоніма ў гады Другой сусветнай вайны гітлераўцы расстралялі звыш 10 тысяч чалавек.

Былі як сотні соцень расстраляных.
Дол цёмны і мая густая кроў
Тады б у непрыкметкі арасіла
За тое толькі, што на свет прыйшоў
Каля гары, што сталася магілай.
І я б адсюль не азіраў цяпер
Ракі імклівай звонкую падкову,
Тым ліхалеццем, як зnative звер,
Тут расстраляны проста выпадкова.
Ды кулям сэрца лёс не даў прашыць.
Стаю я на журботным гэтым грудзе:
Да ворага, пакуль я буду жыць,
Нянавісці вучыць мяне ён будзе!..
Суровая, маўклівая гара,
Імхом сухім зарослае адхонне, —
Слязьмі і сёння зоры тут гараць,
Як кроў, зара сплывае тут і сёння!..
І мне сюды сцяжынкі не забыць,
І кветкі слаць ля абеліска густа, —
Клянуся перад ім усё рабіць,
Што я магу і нават не магу што!..
Клянуся бараніць сваю зямлю,
Крышыць-ірваць у свеце ўсе аковы,
І толькі аб адным свой лёс малю —
Зноў зберагаць ад смерці выпадковай!..

## Родны горад

У зелені — бель камяніц, касцёлаў.
Уецца Шчара, бліскаючы срэбрам.
Спыніўшыся на ўзгорках, навакола
Лясы стаяць, падпёршы купал неба.



Я вырас, захапляючыся тут
Высокім небам, Шчары ціхім звонам,
Агністым сонцам, лесам задумёным,
Мурамі і людзей жыццём штодзённым,
І сэрцам палюбіў я гэты кут —
Цябе, мой старадаўні родны Слонім.
Люблю раўніва, зачараваны табой,
І мне дасюль баліць, што з гэтых горак,
Дзе я цяпер стаю, ракой, красой тваёй
Мог любавацца хоць на момант вораг!..

## На вуліцы Янкі Купалы ў Слоніме

Родны мой горад, спрадвечны горад,
Памяць чыя глыбей, чым твая?..
Дай скалынуць твае радасці, гора,
Дай перажыць іх з табой удвая!
Дай, прывярні тыя дні, тыя хвілі,
Госцем, калі тут Купала* быў:
Вулкі твае яго не забылі,
І ён жа іх, пэўна, нідзе не забыў.
Чуў ты біццё яго сэрца, горад,
Хвалямі Шчары думы ўздымаў:
Усю Беларусь абдымаўшы, як мора,
Ён і цябе, горад мой, абдымаў.
Бачыў ты погляд яго, цёплы, зоркі,
У сонца ўлюбёны, лён і зязюль,
Ціха кацііў з заімжэлых пагоркаў
Горкай нядолі былое слязу.

---

* У 1939 годзе Янка Купала вяртаўся з Беластока ў Мінск і па дарозе заязджаў у Слонім да паэта Гальяша Леўчыка.

Бачыў ты рукі яго, што павольна
Мглістасць расхінвалі па-над табой,
І святкаваў ты прыход яго, вольны,
Слаўны за волю сваёй барацьбой.
Бачыў, як крочыў ён, каб не запляміць
Бруку каменьчык, муру парог —
У дзевяць стагоддзяў нямую іх памяць,
Годнасць, якую ты моўчкі збярог.
Бачыў, прайшоў ён сюдой, каб застацца
Подыхам, поглядам, слыхам зязюль
У шыбах, што светла дагэтуль свяцяцца,
І на каменнях, цёплых дасюль.

## Мае вуліцы

Я вырас на З я л ё н а й,
Дзе яблыні і вішні,
І маладыя клёны
Ля вербаў, зграбных, пышных.

Ды рос я і на Б о с а й,
Дзе проста разувалі
Ці бот свой без падносак
На новы мой «мянялі».

Як рос і на Х а л о д н а й,
Кудою дроў не везлі,
Каб акупанту ў спаднім
Не толькі вушы мерзлі!..

А потым — на Г а л о д н а й,
Дзе ў кацялку, бывала,



Прасіначка бясплодна
Цянёк свой даганяла…

Дык вось аж колькі вуліц
Вялі мае дарогі
Ад вуліцы матулі
Да плошчы Перамогі.

Па самай жа галоўнай —
Па Ч ы р в о н а а р м е й с к а й
Слязою шчасця поўны,
Я нёс байцам пралескі!..

## Прабегла чорная котка

*Івану Саламевічу**

Прабегла чорная котка,
Упала чорная косць, —
Далёкая Кракотка,
Ёсць ты ці не ёсць?..
Направа паваротка
З Вялікае да Малой, —
Зачакалася Кракотка
Нас з табой.
Чаму да яе не ідзеш ты —
У Кракотку сваю?..
Нібы чакаючы рэшты,
Перад табой стаю:

---

* Янка Саламевіч (1938–2012) — беларускі літаратуразнавец, фалькларыст, перакладчык, родам з вёскі Малая Кракотка Слонімскага раёна.

Над ручаём дрыготкі
Туман да Зяльвянкі* паўзе
З нашае Кракоткі,
Адкуль твае ўзлёты ўсе —
З Вялікае, з Малое
На веліч быў шлях адзін…
А ў коткі пад палою —
Хворая поўсць гадзін;
Перабегла котка
За ручай у гай…
З начы ў дзень бягай, Кракотка,
Наадварот — не бягай!..
Не будзь век кароткі-кароткі,
Даўжэй будзь і лет, і зім, —
Як Беларусь, Кракотку
Не вечным сном шчэ паснім!..

## Хлеўчык

Называю хлеўчык,
А гэта — проста хлеў…
Жыў на Трэцяга Мая Леўчык,
Жыў на Падгорнай Леў.
Той Леў, ён насупраць Гольдберга
Жыў, —
Гольдберг залатым,
Леў львом не быў.
Файны мой хлеўчык,
Хоць ён проста хлеў…

* Зяльвянка — рэчка, якая працякае на тэрыторыі Слонімскага і Зэльвенскага раёнаў.



Эх, каб яго бачыў паэт Леўчык,
Эх, каб яго бачыў крамнік Леў!
Слонім, вядома, мураваны,
Ды і хлеў мой не з бярвёнаў,
Страхой каранаваны,
Зімой, летам — аднакі, як барвёнак.
Патрэбны, як крама,
Патрэбны, як грош:
У стрэх слонімскіх панараму
Упісаны нязгорш.
Ну а па-другое, прашу не пярэчыць:
Каб хлеўчык быў, у поце я млеў,
Як над рукапісамі Гальяш Леўчык,
Як за прылаўкам Абрам Леў.

## У Чамярах

Да Шчары спяшае
Валобрынка жвава, —
Курганне — налева,
Курганне — направа.
Пад сосны на ім
І сягоння хаваюць:
Курган чамяроўцы
На тры хаты маюць.
Не мелі калісьці
Ніў, пашы і спрату,
За тое магілкі —
На кожных тры хаты.
Там густа, тут — пуста
Сасон на кургане, —
«Калі не да густу,

На трэція глянем!..
На трэціх залішне
Валуннага моху?..
Не ў Слонім на рынак!..
Забавімся троху!..
Не вельмі, каб вельмі
Курган і чацвёрты…
Га!.. Не выбірае
Адной той, хто мёртвы!..
Валобрынка хай сабе
Ў Шчару спяшае,
А нам — не карціць,
Мы — паперабіраем!..»
Дальбог, Чамяры —
Лепш нябеснага раю!..
І я з вамі, людцы,
Паперабіраю!..

## Сакалова*

Ёсць такая вёска Сакалова,
Як хацеў калісьці ў ёй пабыць:
Ледзь не пад яе ганяў каровы,
Ледзь не ля яе збіраў грыбы…
Вуліца, напэўна, там прамая
І сады ламаюць частакол,
Кожны дзядзька ветліва прымае,
Высяваны хлеб кладзе на стол.
Цёткі ў андараках каляровых,
Хусткі — вузялкі пад барадой,

* Сакалова — вёска ў Слонімскім раёне.



Крыллямі ўзнімае ўсмешка бровы,
А пляткарак вокал — ні адной…
Вось і еду ў Сакалова сёння,
Еду, ды трывожуся, аднак:
Можа, лепш аб ім заўсёды помніць,
Чым знайсці што-небудзь там не так?!.

## Іса*

Паміж лясоў
Не хіжым лісам
Бяжыць, пятляе
Рэчка Іса.
Лес цень дае ёй,
Прахалоду,
Ваду, зябчэй,
Крыштальней лёду.
Пад сонцам — жвір
І плынь у пене,
Дзе круціць вір
Сваё скляпенне.
А стронзе — рай
Паміж карагаў,
Тутэйшай рыбцы,
Не з варагаў, —
Зляві!..
Жывога срэбра міса
Ў руках тваіх
Заплешча Ісай!..

* Іса — рэчка, якая працякае на тэрыторыі Слонімскага раёна.



## УЛАДЗІМІР МАЗГО

*(1959)*

### Дарога на Слонім

Бяжыць машына па шашы
І набліжае Слонім,
Дзе трапятаць тваёй душы
У радасным палоне.
Спяшаюць далі паказаць,
Як хораша ў абшары
Вузлы ўспамінаў завязаць
Шаўковай стужкай Шчары.
Жаданні лепшыя твае
Туды накіраваны,
Дзе вечнасць голас падае
Святы і ўсхваляваны.
Спявае там званамі храм
На споведнай сустрэчы,
Што нам, нібыта званарам,
Пашчасціла засведчыць.

### Ці ёсць у Слоніме сланы?

*Верш для дзяцей*

Каля Бабруйска
Ёсць бабры,
А ў Камарыне —
Камары.
За Ваўкавыскам
Шмат ваўкоў,
А Шчучын
Ловіць шчупакоў.
Калі за Глушай
Ёсць глушцы,
А за Казлоўшчынай —
Казлы,
Каля Барані —
Бараны,
Ці ёсць у Слоніме
Сланы?
А кобраў,
Людзі добрыя,
Ці бачылі
У Кобрыне?..





## МАР'ЯН МЕДУШЭЎСКІ

*(1949)*

### Сланімчанка мая

Ціха Шчара цячэ і павольна,
А наўкол спелых траў сенажаць.
Сланімчанка мая, сланімчанка мая,
Выйдзі, выйдзі мяне сустракаць.
Мы з табою пайдзем ціхім ранкам
Да цудоўна пахучых лугоў.
Сланімчанка мая, сланімчанка мая,
Мілавіца маіх светлых сноў.
Цёплай ноччу табе на Купалле
Кветку шчасця знайду на хаду,
Сланімчанка мая, сланімчанка мая,
У свет кахання цябе павяду.
У жыцці удваіх мы з табою
Дажывём да шчаслівых гадоў.
Слонімчанка мая, сланімчанка мая,
Зорка светлых шчаслівейшых сноў.



## СЯРГЕЙ НОВІК-ПЯЮН

*(1906–1994)*

### Над Шчарай

1

Вечар. Над Шчарай лягла
Белым прывідам імгла.
Вецер заціх, не шуміць,
Сном веснавым Слонім спіць.
Толькі адзін я не сплю —
Сэрца баліць, бо люблю!
Меру за крокам я крок,
Мчыць са мной думкаў паток.
Ішоў бы, здаецца, удаль,
Скінуў бы з сэрца я жаль,
Скінуў бы сум і тугу,
Але дарма, не магу.

2

Дзе ты, галубка мая?
Чуеш, як мучуся я?
Чуеш, як сэрца баліць?
Чуеш, як цяжка мне жыць?
Ты запытала: чаму
Так на цябе я гляджу?

Ты ж ані цар, ані Бог! —
Я даць адказу не мог.
Але затое цяпер
Праўду кажу, мне павер,
Слухай, галубка мая:
Шчыра люблю цябе я!

3

Ведаеш добра й без слоў,
Што маіх мроя ты сноў,
Ты — мая прыстань, жыццё,
Радасць ты й шчасце маё!
Ціха ўдаль Шчара бяжыць,
Хваляй аб бераг плюхціць.
Думкаў нястрыманых ток
Мчыць, як бурлівы паток.
Ноч. А над Шчарай лягла
Дзіўным прывідам імгла.
Вецер заціх, не шуміць,
Сном веснавым Слонім спіць.





## СЯРГЕЙ ПАНІЗЬНІК

*(1942)*

### Багач

*Памяці Уладзіміра Сакалоўскага*, літаратара, навукоўца са Слонімшчыны*

Я пры жыцці насіў падзяку
суседу. Знаў не дзіваком,
калі ён Веды за каняку
валок з Еўропы ў Мінскі дом.
На першых немцаў, на апошніх
не скідваў князь наш брыдкіх слоў.
…Ступаў на слонімскія пожні
у вершах: іх палоў, малоў
і складваў, як і рарытэты, —
чакаючы на Божы суд.
…Князь Уладзімір вунь з карэты
глядзіць: хто там з ім, а хто тут:
пакінуў скарб не на бадзягу,
а на падоймы глыбашу…

---

* Уладзімір Сакалоўскі (1930–2013) — беларускі перакладчык, літаратуразнавец, кандыдат філалагічных навук. Даследаваў беларуска-нямецкія сувязі. Нарадзіўся ў вёсцы Мяльканавічы Слонімскага раёна.

*

…Я пры жыцці насіў падзяку,
паклон і сёння паднашу.

*20.06.2013*

## Хросьнік Янкі Купалы

*Памяці Сяргея Новіка-Пеюна**

Паэтаў планіда не кратае
Рукамі лагоды.
Яна чацвяртуе за кратамі
Крукамі нягоды.
На годы ссылае ўнясповедзі
На зімную безлюдзь.
У катаў паэты — для поедзі…
Ды — костkаю — песня!
І «Зорачкі»** з лагернай наледзі
Прыходзяць на помач.
Быў Янка Купала — у памяці.
І ў памяці — Поўнач.
О «Сэрца, не плач!» З горкай чараю
І словам сыноўнім —
П р ы в о л л е! І поўня над Шчараю
Вальсуе на Слонім.

---

* Сяргей Новік-Пяюн (1906–1994) — беларускі паэт, вязень сталінскіх лагераў.

** Маецца на ўвазе верш «Зорачкі» Сяргея Новіка-Пеюна, які стаў народнай песняй.



## «Пілую вершам краты»

Пракурор праз кодэкса артыкул
углядаўся ў кожны мой радок,
нават пальцам асцярожна тыкаў
і ацэньваў: за радок — гадок.

*Валянцін Таўлай*

За радок — гадок:
толькі крок убок,—
муза — корчыкам.
Каб жа быў шасток…
Не ўзляціць браток
з яркай почапкай.
Не Парнас — грудок.
Быў паэт — гудок!
…Дух на ворчыку.
Мо знайсці масток?
Вунь гатоў хадок
славіць «кормчага».
Пракурорскі змрок…
На пяро — курок
з чорным росчыркам.





## АЛА ПЕТРУШКЕВІЧ
*(1960)*

### Калыханка на ўскраіне Слоніма

Восеняй на ўскраіне Слоніма
ў якімсьці дамку драўляным
спявала матуля песню
свайму сыночку каханаму:
«Ноч рассыпала зораў агні,
Ў сінім небе яны патанулі.
Вее сон над прасторам зямлі.
Люлі, люлі, сыночак мой, люлі».
Гэтак хараша чаравала,
на галоўку вяночак сплятала
з самых светлых, пяшчотных слоў,
з пажаданнем шчаслівых сноў:
«З гэтых зорных чырвоных агнёў
я спляту прамяністы вяночак.
Над галоўкай павешу тваёй,
Люлі ж, люлі, засні, мой сыночак».
І плыла над вячорнім Слонімам
песня-мара матулі Наталлі*,
што нізала рукой нястомнаю
з незвычайных пэрлаў каралі:
«Тыя пэрлы-слязінкі збяру,
паніжу з іх пацёркаў шнурочак
і на шыйку завешу тваю.
Люлі ж, люлі, засні, мой сыночак.
Будзе з імі малы засынаць,
ручкай пацеркі-слёзы кранаць».



* Маецца на ўвазе беларуская паэтка Наталля Арсеннева (1903–1997), якая ў першай палове XX стагоддзя пэўны час жыла ў Слоніме.



## АЛЕСЬ ПІСЬМЯНКОЎ

*(1957–2004)*

### Едначы*

*Уладзіміру Ягоўдзіку***

Сонца заходзіць — вогнішча ўсходзіць,
Свеціць ласкава ўначы.
Усё-такі добра, Валодзя,
Што ёсць на зямлі Едначы.
Ёсць бераг зялёны. Жаданая лодка.
Ёсць горкая кропля. І яснасць святла.
І песня гаючая продкаў
Балюча ў душы прарасла.
І звонка ў крыві затрымцела,
Каб некалі ў нашых нашчадках ажыць —
Світальна ў стагоддзях кружыць,
Крылы расправіўшы смела.

---

* Едначы — вёска ў Слонімскім раёне.
** Уладзімір Ягоўдзік (1956) — беларускі пісьменнік, родам са Слонімшчыны, жыве ў Мінску.



## АЛЕНА РУЖ

*(1971)*

### Вёска Вераб’евічы

Не маленькая, не вялікая —
З’ява гэтая нават звыклая,
Ля гасцінца — як прытулілася,
Бы ў дарожцы яна стамілася.
Шчасце-шчасцейка людзям мроіцца,
Толькі дзе ж яно ўдосталь водзіцца?
Вось надзейка і не гублялася,
Верабейкам усім з’яўлялася.
Вёска-вёсачка — невялікая,
І старыя ў ёй — з’ява звыклая,
Не далося ёй моцы-велічы
З назвай гэткаю — Вераб’евічы.
Ды жывуць у ёй самабытныя
Людзі, добрыя, працавітыя.
І, здаецца, што шчасце маецца:
Дзеўкі з хлопцамі ўсё ж кахаюцца…



## АЛЕНА РУЦКАЯ

*(1950)*

### Родныя вуліцы

Тапалёвая,
Садовая,
Падлесная —
Назвы вуліц — сонечнымі песнямі
Вы ў маё маленства увайшлі.
Радасці вучылі весняй квеценню,
Цеплыні вучылі мройным лецейкам,
Ўвосень шчодрасці,
Зімою — чысціні.

Віленская,
Доўгая,
Шасейная —
Вы ў душы маёй юначай сеялі
Прагу да пазнання і трывог.
І таемнасцю адкрыццяў вабілі,
Нібы карабель на стромкім стапелі,
Ў прадчуванні шчасця і дарог.

Дабрыяна*,
Гнідаша**,
Сінічкіна*** —
Вы вучылі па святочнаму звычаю, —
Мужнасці, адданасці, зямлі.
Каб сумленне шанавала чыстае,
Каб магла за праўду цвёрда выстаяць,
Памнажаць, што продкі здабылі.

### Паланэз Агінскага

У маладзіковым чоўне вечар
Наплывае ціха на сады.
І здаецца, чутны ў шэпце вецця
Паланэз Агінскага тады.
Можа, музыку падслухаў вецер,
Як яе Агінскі сам іграў,
І тады зрадніўся з ёю нечым —
Мабыць, што радзімы сам не знаў.
Падхапіў мелодыю на крылы
І цяпер для тых яе пяе,
Хто з радзімай расстаецца мілай,
Каб не змог забыць навек яе.

---

* Іван Дабрыян (1913–1970) — партызан на Слонімшчыне ў гады Другой сусветнай вайны. Пасля вайны ўзначальваў Слонімскі райвыканкам.
** Кузьма Гнідаш (Гнедаш, 1913–1944) — Герой Савецкага Саюза.
*** Фёдар Сінічкін (1901–1962) — Герой Савецкага Саюза.



## МІХАСЬ СКОБЛА
*(1966)*

### Божыя кароўкі з Жыровічаў

Сонца і высокі купал храма
Сыдуцца праз неба нацянькі
Пад пярэкліч велькодны: «Amo!»
Ўсіх званоў і у зеніце прама
Пацалуюцца, як мацакі.
З ніцалоззя не звіеш вяроўкі.
Слова дух трываліць крывічу.
Вершы нібы божыя кароўкі —
Ад шматкроп'яў ройна уваччу.
Узлятае вырай знічакрылы
З-пад прытульных манастырскіх стрэх.
Ці ж папраўдзе свет такі пастылы,
Брат Алег*?
Верш няўзнак становіцца маленнем.
Верш, нібы ружанец, не парвеш.
Верш — тастамант прышлым пакаленнем.
Верш — як галаснік у праймах веж.
Слоў дажынкі, ісціны дакопкі
Адсвяткуе хай душа і плоць.

* Маецца на ўвазе паэт Зьніч.

Як радыст, паэт пачне ад кропкі
Тэлеграму-верш. Пачуй, Гасподзь.

### Слонік
*Верш для дзяцей*

Слонік тупаў па вальеры,
Мацаў хобатам — дзе дзверы.
Не схацеў ён жыць на поўдні,
Дык не хоча і ў Гародні.
Ані ў Мінску,
Ані ў Слуцку —
Хоць там можна жыць па-людску.
І не хоча ў Белавежы,
Хоць і там хапае ежы.
Слонік моўчкі сеў на ўслоне.
Як сказаць без слоўніка:
— Слонік я, хачу я ў Слонім.
Пашкадуйце слоніка!





**ВАСІЛЬ СУПРУН**

*(1926–2007)*

## Над Шчарай

Над Шчарай, нахіліўшыся,
Шумяць бярозкі белыя.
І ў хвалях неба кужалем
Купаецца, дрыжыць.
А ў сэрцы песня новая,
Хоць мо яшчэ нясмелая,
Пад гоман краю просіцца,
Каб зазвінець, ажыць.
Вясна, вясна над Шчараю,
Як маладосць, чароўная,
Бурлівая і светлая,
Бы радасць, — без граніц.
Ты, сэрца маё, змучана,
Любоўю шчырай поўнае,
Надзеяй поіш чыстаю
Са слонімскіх крыніц.



**АЛЕСЬ СУЧОК**

*(1916–1993)*

## Бяздоннае возера

Між гор яно. Упадзінай глыбокай,
Як люстра светлае, блішчыць з далечыні.
Улетку ў ім там мыюцца аблокі,
І мноства хваль — пайдзі пералічы.
Легенды ходзяць сумныя ў народзе:
На месцы тым, дзе возера разліў,
Было мястэчка люднае такое,
І ўсё пайшло наскрозь зямлі, ў прарыў.
Ў людской легендзе, можа, праўды сіла,
Стары тут могільнік пры беразе зусім.
І пліты на магілах ў моху сівым,
Ніхто не помніць, стаўленыя кім.
У час вячэрні, як няма аблокаў,
Як сонца твар схіляе да зямлі,
Паглянь на возера. У тоні вод глыбокіх
Убачыш вуліцы ў мястэчку, як ішлі.
Уявіш мітуслівы клопат ранні,
Пачуеш песню, з поля ідучы.
І спраўдзіцца легенды той казанне, —
Усё, што людзі змогуць зберагчы.

## Роднай вёсцы Какошчыцы

І зноў я тут,
У роднай вёсцы,
Дзе маладосць
Мая прайшла.
Я пакланіцца
Рад бярозцы —
Надзеі роднага сяла.
Ідзе жыццё,
А я пытаю:
А дзе ж вы, дзе,
Мае сябры?..
З якімі разам
Босы з хаты
Я бегаў летам
Па грыбы.
Сяброў няма —
Сышлі са свету
У час апошняе вайны.
За вёску нашу,
За Радзіму
Тады змагаліся яны…
І толькі памяць
Захавала
Сяброў, равеснікаў
І блізкіх.
Я пакланіцца
Роднай вёсцы
Прыехаў сёння
Нізка-нізка.



# ІВАН СЯРГЕЙЧЫК

*(1949–2006)*

## Песня пра Слонім

Горад мой, ты жывеш пад сузор'ем надзеі і шчасця,
Ў будні дзён веліч працы радкамі упісваеш сам.
Будаўнік твой партрэт змог цаглінкамі гонару
скласці,
А захоўваць яго мужным дочкам тваім і сынам.

*Прыпеў:*

Слонім наш, родны наш,
мы табе ўсё жыццё прысвячаем.
І, як птаху, жадаем
моцных крылаў ў палётах тваіх.
Няхай макі цвітуць
там, дзе насмерць салдаты стаялі,
Макі — сімвал павагі
да справаў тваіх баявых.

Вечнасць ў парку тваім мужным ліпам расчэсвае
косы,
Млечны Шлях акунуўся у хвалі канала твайго.
І гучыць паланэз, настальгію купаючы ў росах,
То Агінскаму гімн ад шматлікіх нашчадкаў яго.

*Прыпеў.*

На шляхах, між дубоў, не аднойчы заставы стаялі.
Сыпаў іскрамі меч у руках абаронцы твайго.
Твае, бацька, сыны — наймацнейшае пробы
са сталі,
Ў абелісках застылі, як гонар народа майго.

*Прыпеў.*

## ТАЦЦЯНА ТАРАСІК

*(1972)*

### Заўжды красуйся

*Да юбілеяў Слоніма*

Спляценне мараў цеплыні,
Спляценне лёсаў
Чароўным срэбным ланцужком
Дзявочых косаў.
На скрыжаванні ўсіх шляхоў
Да Беларусі
Квяцістым полымем вяргінь
Заўжды красуйся.
Пад гукі музыкі квітней,
Пад шчырасць слова,
Ласкава сустракай гасцей
Ты роднай мовай.
Пішы свой летапіс жыцця
І дні, і ночы,
У мір, у шчасце, ў добры шлях
Наперад кроч ты.
Цудоўны Слонім, мой маяк,
Мая надзея!
Сястрыца родная твая
Цябе лілее.

На хвалях Шчары праз гады
І праз стагоддзі
Нашчадкам, Божа, зберажы
Наш горад родны.





## ТАЦЦЯНА ТРАФІМЧЫК
*(1953)*

### Касцёлу святога Андрэя ў Слоніме

Пад дахам неба Крыж Святыні.
Душа дрыжыць, бо побач Бог.
Дрыжаць сузор'і ў цёмнай сіні,
Анёл ступае на парог.
Гасподзь сузор'і уладарна
Сябе змушае праслаўляць,
Скляпенні зорачак крыштальных
Святой лампадкаю гараць.
Усё Яму пяе ўрачыста:
Анёлаў хоры і людзей.
І купал Храма голас чысты
Даносіць Богу — плынь падзей.
Усё жывое замірае
І кленчыць з вераю ў мальбе,
Даруй нам, Матачка Святая:
Грахамі крыўдзім мы Цябе.
Душа пакутуе і просіць,
Благае, ад віны дрыжыць,
Агонь любові слёзна росіць,
Ахвярна свечкаю гарыць.
Святыня Храма думкі ўзносіць,
Пачуцці, просьбы і любоў.

Збавіцель побач, Ён прыносіць
За нас зноў Цела сваё, Кроў.
Святар чысцюткі сустракае
Збавіцеля ля алтара,
І просіць шчыра, і благае,
І моліць неба і зямля.
Пад дахам неба Крыж Святыні.
Душа дрыжыць, бо побач Бог.
Дрыжаць сузор'і ў цёмнай сіні,
Анёл ступае на парог.

## Дзяды ў Слоніме

Ўжо колькі дзён цямнее неба,
І ноччу дзень назваць тут трэба.
Да нас спускаюцца дзяды,
Таму і хмурая прырода
І час такі у пана года —
Дзядоў відны наўсцяж сляды.
Яны на могілках Ружанскіх*
Пільнуюць звычаяў паганскіх:
Ці ўжо прыбраныя клады?
Ідуць памерлыя па сцежках
Душой спачынуць на узмежках.
Зямля хмурнее на Дзяды.
А дзень нагадвае кананне:
Ледзь сонца выгляне і звяне,
Прыдушаць хмары нематой,
Чарнее неба, яно страшыць.

* Маюцца на ўвазе старыя могілкі на Ружанскай вуліцы ў Слоніме.



Душа не знае, што то значыць,
Адкуль трывожны неспакой.
Ды ёсць святло, яно жыве, —
Яго нясуць у душах ўсе,
Жыццё хто цепліць у сабе.
Запалім свечку дабрыні,
Каб пасвятлела на зямлі
З дзядамі ў восеньскай журбе!

## Родныя мясціны

Хаджу па вуліцах знаёмых,
Здаўна і блізкіх, і вядомых.
Мне з імі добра у цішы,
Так многа згадак у душы.

Ля сінагогі ўстрапянуся,
Ў гады дзяцінства акунуся:
Спяшалася адсюль дамоў
І сумавала без бацькоў.

Ля Шчары думкай паблукаю,
У парк Агінскіх завітаю.
Тут замчышча з былых часоў,
І старасвецкіх пабудоў

Нямала побач разляглося.
Адсюль прайдуся да Замосця,
Касцёл Андрэя запрашае,
Святою верай наталяе.

Стагоддзі прамаўляюць тут,
За брамаю — святыні цуд.

Да неба вочы уздымаю —
У вечнасць думкай узлятаю.

Імкнуся сэрцам да Жыровіч,
Да Шылавіч*, душа дзе ловіць
Напевы Боскай чысціні,
Царква Казанскай там, зірні!

Яна ўзнялася велічава
Хрысту і Госпаду на славу!
Да Маці Божай памалюся,
Ў дзяцінства кут перанясуся.

Дарога ў Косава** імчыць,
Дзе родны тракт здаўна ляжыць.
Калі міну прасторы Энкі***,
Да Бракава**** дарогі, сцежкі

Мяне вядуць, каб не забыла
Капліцу, дзе з прычасцем піла
Ваду святую на пагорку
І ліпаў слухала гамонку.

Ўзлятае сэрца птушкай вольнай
У сонечны абсяг прывольны.
Мяне тут маці нарадзіла,
Любоўю сэрца напаіла.

---

* Шылавічы — вёска ў Слонімскім раёне.
** Косава — мястэчка ў Івацэвіцкім раёне.
*** Энка — мікрараён Слоніма.
**** Бракава — вёска ў Слонімскім раёне.



## Пакроў Жыровіцкай Божай Маці

Чырвоны колер жыццядайны
Сплывае светла з абразоў,
Настрой душэўны незвычайна
Хвалюе. Боскасці пакроў

Зноў атуляе мяне ціха,
Чароўнай музыкай гучыць.
Слязой сплывае з сэрца ліха,
З іконы промень зіхаціць.

Ён Маці Божай Валадарцы
Паслугу выканаць гатоў
Ў яе мілоснай, шчырай працы
За вызваленне ад грахоў.

Таму і сэрца рвецца птушкай,
Таму і радасць у душы.
Прыбрана Божа Маці хусткай,
На галаве вянок ляжыць.

А побач ён — сабор Успенскі,
Жыровічы хвалююць зноў,
Дзе купал колерам нябесным
Заве цябе з малых гадоў.

Абраз Жыровіцкае Маці
Заззяў святочна у куце —
І засвяціла сонца ў хаце,
Нас Бог не кіне у бядзе!



## ЛЮДМІЛА ФАРБЕР-КАНДРАЦЬЕВА *(1950)*

### Альбярцін
*Акраверш*

**А**дкуль узялося слова Альбярцін?
**Л**ясамі, дрэвамі пахне ён адзін,
**Ь**
**Б**о ў перакладзе значыцца драўляны,
**Я**к хрысціўся ён і загойваў раны…
**Р**амантычныя таполі ў вечнасць крочаць,
**Ц**іха будучыню лебедзі прарочаць.
**І**ншых дзён старонкі ўсіх цікавяць,
**Н**ас у родныя мясціны вабяць…

### Слонім
*Акраверш*

**С**лонім, сланімчане, сланімчанкі…
**Л**ьюцца па-над Шчараю світанкі.
**О**, якія казачныя словы,
**Н**абытыя з маёй бацькоўскай мовы!
**І**скрай ззяеш нам праз вёсны-зімы,
**М**ой куток, маленькая радзіма!



## АНДРЭЙ ХАДАНОВІЧ *(1973)*

### Слонімскі лімэрык

Неразважны сатырык з-пад Слоніму
Вершы надрукаваў без псеўдоніму
Супраць валадара —
І за спробу пяра
Атрымаў… (Не знаходжу сіноніму).





## АЛЕНА ЧАЙКОЎСКАЯ
*(1933)*

### Шыганы*

Шыганы вы мае, Шыганы…
Ружавеў над зямлёй неба край,
Тут кахалі, збіралі ўраджай,
Нарадзіліся дочкі, сыны…
Шыганы вы мае, Шыганы.
Па-суседску вялікі прыход,
Дзе на святы збіраўся народ,
Бо сюды запрашалі званы…
Шыганы вы мае, Шыганы.
Што было і чаго не было —
Ўсё прайшло і быллём парасло.
Ды з мінулага бачацца сны —
Шыганы вы мае, Шыганы!

* Шыганы — вёска ў Слонімскім раёне.

### Слонімскі вальс
*Песня*

Горад агністы —
Жыў тут Агінскі —
Сведкі і Шчара, і лес.
Ў тэмпах няспынных,
Ў парках старынных
Шчыра гучаў паланэз.

*Прыпеў:*

Вальс, вальс, вальс
Гучыць і для нас,
І для вас.
І ў сумны,
І ў радасны час
З намі танцуйце
Слонімскі вальс.

Горад наш родны,
Ты не старэеш,
Зноўку квітнеюць сады.
І напрадвесні
Чуюцца песні —
Голас гучыць малады.

*Прыпеў:*

Вальс, вальс, вальс
Гучыць і для нас,
І для вас.
І ў сумны,
І ў радасны час
З намі танцуйце
Слонімскі вальс.



## АЛЕСЬ ЧОБАТ
*(1959)*

### Балада пра Рудольфа Пастухова

Слонім. Восень. Ранняя, як у сне.
Пуста. Свет, як на нейкім дне.
Сам не веру. Так не бывае…
Над маёй галавой у светлай труне
Пастухоў Рудольф праплывае.
Над зямлёй без вартаў і без ахоў
сам плыве паэт Рудольф Пастухоў.
Ён цяпер на свабодзе
і не просіць долі ў народзе.
Ён не ў коле варожым —
ён цяпер толькі Божы,
перажыў суму і турму,
І жывыя зайздросцяць яму…
Чалавек жыве выпадкова —
што ў тым Слоніме, што ў Маклакова*.
Сумна будзе на свеце
жыць мне без Пастухова.
Зашуміць па ім вецер,
дожджык пральле слязу,
прарасце па ім Слова,
стане ясна і нова —
пастаю над яго магілай,
на Неба яго пагляджу…
Слова нікога не адратавала,
зло заўсёды мацней дабра,
пакаленне нічога не адваявала,
у бяздонне зацягвае нас дзіра,
не патрапіць у рай, хто пражыў паэтам,
не цярпеў ні вартаў, ані ахоў —
і таму сам сабой над бяздонным светам
праплывае паэт Рудольф Пастухоў,
праплывае вышэй і раю, і пекла,
над усімі намі лёгка ляціць.
І на доле ў Слоніме робіцца светла,
толькі Шчара плача — бо ёй баліць.

* Населены пункт у Расіі.

### Балада пра Івана Сяргейчыка

Час аказаўся тупы і востры.
Вёска, вайна і натоўп жанчын.
Старшы прапаршчык — старшы ў войску,
бо маёр з маёрам грызуцца за чын.
У падняволлі бойні афганскай
не выйшаў ніхто з летаргічнага сну.
Іншым, як цвік у труну, — адстаўка.
Але Сяргейчык не лезе ў труну.
Кожны ў райцэнтры — вялікі і геній.
І графаманіць кожны другі…
А піша добра Іван Сяргейчык.
Бо піша, як жыў. Бо не спаў, а жыў.
Спіхнуў старое — як бабу з воза.
Лёгка паехаў сабе далей.

З каго ты смяешся, сталічная вёска?!
Глядзі, з таго смеху зусім не здурэй….
Сяргейчык дом сабе ставіць над Шчарай.
Новы зноў канчае раман.
А дзе там шчасце і дзе няшчасце —
не мы вырашаем, судзіць не нам.





## ІВАН ЧЫГРЫН
*(1931–2006)*

### Таварыш Слонім

— Таварыш Слонім,
Добры дзень!
Кароў не гонім,
Не прадзем,
Жывем далёка
Ад цябе…
Нехта галёкаў
На вярбе —
Прарочыў гора
І бяду.
Лахмаціць горад
Бараду:
— Эге, таварыш,
Быў калісь…
Іду да Шчары
Зверху ўніз.
Здаецца, вулкаў
(Хто — на злом?)
Крывых і мулкіх
Не было?
Пахілых хатаў —
Хоць на злом.

Платоў гарбатых —
Не было.
Падбітых ліпак
Доўгі рад,
Хоць ціха хліпаў
Ля прысад.
Іду, сардэчны,
Да ракі.
Не тыя ў рэчкі
Берагі.
І мост, здаецца,
Што не той —
Няўклюдай пнецца
Над ракой.
Стагнаў ды вохкаў
Ледастаў.
Ля школы трохі
Пастаяў.
Якія хлопцы?
Раз і два…
Аднавяскоўцаў
Пазнаваў.
Гудок у высях
За ракой
Сіпеў і біўся —
Біў адбой.
Матросы будуць,
Маракі.
Гудзелі гудам
Цягнікі.
Прыблудаў гоняць
Дзе-нідзе.
— Таварыш Слонім,



Добры дзень…
— Эге, таварыш…
— Вер не вер,
Іду з-пад Шчары,
Знізу ўверх.

## Валобрынка

Аж дзесяць літараў у назве маёй рэчкі.
Пераліваецца. Бурлівіцца. Іскравіцца. Бяжыць.
Уражанне такое — гэтай рэчкі-самацечкі
Павек стараннем аніякім не спыніць.
Ва ўсякім разе, покуль назву носіць гэтую. То бок
Пакуль абапал мы яе жывем, і гэта знае Бог.
Валобрынка мая. Такое плыні-самацечкі
Няма ані ў якой другое на планеце рэчкі!





## СЯРГЕЙ ЧЫГРЫН
*(1958)*

### Паланэз

Роднасць наша
Самая блізкая —
Слонім
І паланэз Агінскага.
Зоры на далонях
І над калыскаю,
Сон наш —
Слонім
І паланэз Агінскага.
Хвалямі Шчары
І кожнаю пырскаю
Мы адчуваем
Самае блізкае —
Слонім
І паланэз Агінскага.

### Родныя вёскі

Буслы ў беларускія вёскі
Прыносяць ад шчасця ключы,
І пеўняў чуваць адгалоскі —
Байкі, Ламашы, Едначы.

Жывуць тут народныя песні,
Купаецца ў росах трава,
Францішка Скарыны равеснікі —
Баяры, Папкі і Літва.

На славу жыццё маладому
Добра чытаюцца вершы,
І кліча дарога дадому —
Залессе, Загор'е, Заверша.

Як добра — на шчасце вякамі
Тут хаты будуюць сябры,
І вяжуць сватоў ручнікамі
Грынкі, Касцяні, Чамяры…

Шуміць пры дарозе бярозка —
Хачу я туды ўцячы,
Дзе бусел і мне па-над вёскай
Напэўна падкінуў ключы.

### Касцёл святога Андрэя ў Слоніме

Да крыніцы святой прыпаду,
Бо душа моцна смагай хварэе.
Па слядах Льва Сапегі пайду
Да касцёла святога Андрэя.

І ступлю на цвінтар распісны,
Што, як сонца, з гадамі старэе.
Знікне чорны куфэрак маны
Ля касцёла святога Андрэя.

Знікнуць боль, і адчай, і трывога,
І душа, як вясна, развіднее…
Папрашу я свабоды у Бога
У касцёле святога Андрэя.

## Гальяш Леўчык

Дамоў
Зычлівы Слонім клікаў,
Дзе сэрцу ўсё так блізка,
Дзе, як струна са скрыпкі, —
Канал Агінскага.

## Успенскі сабор у Жыровічах

Я слаўлю тваю старажытнасць
На слаўнай крывіцкай зямлі,
Дзе ў сонцы купаецца жыта
І ў вёсках рыпяць жураўлі.

Дзе мова гучыць беларуская,
Ад кветак святлеюць бары,
Дзе кожная сцежка вузкая
Расою блішчыць на зары.

Дзе звычай жыве спрадвечны —
Вяселлі спраўляць гучней…



Дзе ты так падобны на вечнасць
Сярод землякоў і гасцей.

## Памяці паэта Сяргея Дарожнага*

Сяргей Дарожны.
Жыццё — дарога
У васільковым россыпу.
А на душы — трывога,
І васількі
У росах тут.
Бывай, мой Слонім!
Сто дарог
Сюды прыводзяць,
І сто трывог,
І сто трывог
За мною ходзяць.
Бывай, мой Слонім!
Буду жыць
Тваёй надзеяй,
Хоць я старэю,
А душа
Зноў маладзее.
Бывай, мой Слонім,
Я з дарог
Яшчэ вярнуся,
І што зберог,
Я давязу

---

*Сяргей Дарожны (1909–1943) — беларускі паэт са Слоніма, які быў рэпрэсіраваны ў 1936 годзе і загінуў у Камсамольску-на-Амуры.

Да Беларусі.
Я давязу
Да Беларусі
Сны землякоў,
Бо сняцца гусі
Над Белай Руссю,
Спеў жаўрукоў.
Бо сніцца Шчара
І канал,
Канал Агінскага.
Дзяўчына-мара
Там жыве
І людзі блізкія…
Бывай, мой Слонім,
Мой самы лепшы!..
Я на спатканне
Да цябе
Пашлю з дарогі
Вершы.

## Тэатр у Слоніме

*Памяці заснавальніка Слонімскага беларускага драматычнага тэатра рэжысёра Мікалая Варвашэвіча**

Слаўны шлях наш Агінскі пачаў.
І калі мы заснем у палоне —
Стане пуста ў душы,
Стане цёмна ў вачах,

* Мікалай Варвашэвіч (1934–2001) — заслужаны дзеяч культуры Беларусі, заснавальнік Слонімскага беларускага драматычнага тэатра.



І не ўспомняцца сцэна і Слонім.
І па Опернай* вуліцы мы не прайдзем,
І тэатр не адчыніць нам дзверы.
Цёмным будзе наш цень,
Сумным будзе наш дзень,
І ніхто не убачыць прэм’еры.
Ды не слухайце тых, хто ад злосці крычыць,
Хто закідвае ношы на плечы нам…
Жыў, жыве, будзе жыць,
А мы будзем любіць
Беларускі тэатр Варвашэвіча.

## Шчара

Бессаромная Шчара
Зарасла
Чаротам і асакою.
Шчырая Шчара
Працякае праз Слонім
І праз
Маё сэрца.



* Назва вуліцы ў Слоніме.



## ВІКТАР ШНІП
*(1960)*

### Балада Льва Сапегі
*(04.04.1557–07.07.1633)*

Зноў на вуліцы ў Слоніме вецер,
Нібы воўк, што ўначы заблудзіў,
Ля вакон, што да раніцы свецяць,
Прыпыніўся, свой шлях прытаіў
І заціх…
І прыцішыў дыханне
Па-над кнігаю новаю ён,
Адзінокі, сівы, бы ў тумане,
І самотны, як вечнасць, як сон,
Леў Сапега, што сёння начуе
Сярод кніг, як сярод цішыні,
У якой па стагоддзях вандруе
Белы рыцар на белым кані.
І гараць свечкі светла, бы ў Храме,
І па кнігах зноў цені, як дым,
Прапаўзаюць, губляюцца з намі
У паветры, ад зор залатым.
І запіша ён зноў, што спазнае,
Запісаўшы, закрэсліць ізноў.
Ён — Сапега, Сапегу свет знае,
Як сам знае Сапега любоў
Да зямлі, на якой нарадзіўся,
За якую маліўся і біўся…
І назаўтра ён сядзе ў карэту,
Зноў у Вільню паедзе, у свет,
І за ім, нібы воўк, на край свету
Будзе вецер ляцець след у след…

### Балада Міхала Клеафаса Агінскага
*(07.10.1765–15.10.1833)*

Радзіма вечная, як неба гэта,
З якога, нібы дождж, сыходзіць Бог
І ў музыцы жыве, нібыта лета
Жыве ў траве і камянях дарог,
Якімі ты Радзіму пакідаеш,
Бо княства немагчыма аднавіць,
Як кроў пралітую не пазбіраеш,
Ды княству жыць у нашае крыві,
Як музыцы ў траве, вадзе, лістоце,
У ветры, што змятае пыл з крыжоў.
Жыць княству, як святлу ў нябёсным лёдзе,
Малітвам у крылатасці буслоў,
Якія над тваёй дарогай кружаць,
Нібы анёлы, для якіх наш край
Плыве азёрна-залатою ружай,
Якой ты кажаш светлае: «Бывай…»
Праз Лету, праз душу, якая плача
Па тым, што ўжо не вернуцца сюды
Ні княства, ні князі з крывёй гарачай,
Ні закаханы ў беларусак ты…

## Балада Сяргея Дарожнага
*(25.02.1909–19.07.1943)*

> Беларусь больш не стане крыжам
> Пры дарозе з Хрыстом распятым.
> *Сяргей Дарожны*

Палымнее касцёр у турэмным двары—
Гэта проза і вершы, і заўтрашні дзень
І тваёй, і маёй Беларусі гарыць.
І паўзе па зямлі дыму згубнага цень
За тваім цягнікам на скрываўлены ўсход,
Дзе будуецца горад на белых касцях.
Над табою нябёсы чужыя, як лёд,
І навокал снягі і лясы — у снягах…
Ты не можаш паверыць, што шлях твой — не сон,
Што табе толькі сёння прысніўся чамусь.
А задрэмлеш на міг — бачыш жыта і лён,
Курганы і азёры, і ўсю Беларусь,
Для якой ты пісаў, для якой ты і жыў,
Каб заўсёды яна, расквітнеўшы, жыла,
Каб на нашых магілах стаялі крыжы,
Не трава забыцця палымнела-расла…
Дагарае касцёр у турэмным двары,
Попел шэры, як снег, уздымаюць вятры,
І ляціць шэры попел не ў неба да зор,
Узляцеўшы, вяртаецца зноў у касцёр,
Каб ізноўку гарэць, і гарэць, і гарэць,
І бясконца праз нашае Заўтра ляцець…



## Балада Алега Лойкі
*(01.05.1931–19.11.2008)*

На Слонім выпаў снег, нібыта попел белы
Ад тых мастоў, якімі не вярнуцца ў свет
Табе ўжо болей, у якім самотна апусцела
Твая зямля, бо ты пайшоў, бо ты — паэт,
Якому Беларусь магілай вечнай стане,
Як стала многім, хто яе любіў, як ты,
Сваёй любоўю прыбліжаючы світанне
Людзям, якія ўслед за імі з цемнаты
Ішлі, дарогу пазначаючы крыжамі,
Сваёй крывёй, што ў век не змыецца з зямлі…
І прыйдзе вучань твой, і ён пацір з слязамі
Пральє ў сваю душу, каб мы віно пілі,
І славілі цябе, і першы снег халодны
У рукі бралі, быццам попел ад мастоў,
Якія ты прайшоў, пакінуўшы самотны
І беларускі крыж між тысячы крыжоў…





## ВІКТАР ШЫМУК

*(1933–1998)*

### Шчара

Паміж рэчкамі-прытокамі
Шчара — самая шырокая,
Шчара — самая даўжэйшая,
Ад усіх найпрыгажэйшая.

Над ракой — гаі дубовыя —
Веліканы стагадовыя.

Мы стаім, зачараваныя,
Пад дубамі-веліканамі.
А ў нізіне — Шчара быстрая,
Як сляза, вада ў ёй чыстая.

Ў Шчару Слонім заглядаецца,
Бы ў люстэрку, адбіваецца,
Нібы дзеліцца са Шчараю
Сваёй радаснаю мараю.

### Верасы па-над Шчараю

*Памяці героя-партызана са Слонімшчыны*
*Яўгена Бакаўца*

Дзень добры, луг,
Дзень добры, поле!
Дзень добры, рэчкі і лясы!
Дзень добры, слаўнае прыволле,
Дзе гэтак пахнуць верасы!
Люблю прайсціся я сцяжынкай
І па палях, і па гаях.
Махае ручкаю-галінкай
Бярозка белая мая.
А нада мной —
То неба просінь,
То хмаркі белыя, як дым.
І дзесьці воддаль каня просіць,
Як сотні год, папіць вады.
Іду далей. Вось дуб кашлаты
Паміж алешніку расце.
Шырока ён раскінуў шаты…
А верасок цвіце, цвіце.
Асіннік ціхенька лапоча,
На ветры лісцейкам трымціць,
Бы расказаць мне штосьці хоча…
А верас, як дыван, ляжыць.
Іду сцяжынкай летнім ранкам.
Дзень добры, па-над Шчарай гай!
І вось спыніўся я. Зямлянка…
Зямлянка, госця сустракай.
Ты раскажы мне пра герояў,
Пра тых, хто тут змагаўся, жыў.
Ты раскажы мне пра былое,

Усё папраўдзе раскажы.
Як ваявалі, галадалі,
Як мерзлі лютаю зімой.
Як эшалоны падрывалі
Яны нялёгкай той парой.
Ды вось убачыў я: сцяжынкай
Ідзе бабуля у мой бок.
Нясе яна ў руцэ карзінку,
З якой відаць баравічок.
Хусцінка з галавы спадае,
А пад хусцінкай — сівізна…
Адкуль яна і хто такая,
Куды ідзе-брыдзе яна?
Гаворыць да мяне паволі,
Трымаючыся за кіёк:
— Тут, у атрадзе дзядзькі Колі,
Быў партызанам мой сынок.
Тут, у зямлянцы, жыў мой Жэня,
Яго наведвала не раз,
Прыносіла гароху жменю,
То блін або ў збаночку квас.
Прыйшла аднойчы да сынка я,
А ўсе паніклыя маўчаць.
«Матуля, кажуць, дарагая…»
…Не ведаюць, з чаго пачаць.
Дык вось якая ты, зямлянка!
Прыціхла маці. Сум вачэй.
Сядзім у лесе летнім ранкам,
Размова зноў плыве, цячэ.
Быліну слухаюць бярозкі,
Быліну чуюць верасы,
Як пад сасонкай па-геройску
Загінуў Жэнька, любы сын…



*

Дзе ракіты ніцыя,
Дзе чарот шуміць,
Вёсачка Хмяльніца
Над ракой стаіць.
Жэнева дарога —
У свой родны бор,
Дзе заўсёды многа
Ягад ды грыбоў!
Сонейка з-за бору
Выплыла. Раса
На густым чаборы
І на верасах
Заблішчала зоркамі,
Тысячамі зор.
Любая старонка,
Любы сэрцу бор!
Жэня ў ім як дома.
Колькі тут красы!
Яму ўсе вядомы
Сцежкі, верасы.
Знае, дзе лісічкі,
Дзе баравікі,
І цурчыць крынічка
Пад кустом якім.
Пахадзіў ён ранак,
Назбіраў грыбоў.
Хопіць на сняданак!
І ідзе дамоў.
А ля сцежкі — росы,
А за сцежкай — гай,
І многагалосы

Скрозь птушыны грай.
Зноў ракіты ніцыя,
Зноў чарот шуміць.
Родная Хмяльніца
Над ракой стаіць.
Стрэхі саламяныя,
Веснічкі з лазы.
У кошыку з грыбамі
Зверху — верасы,
Штосьці ў іх такое
Роднае да слёз.
Верас за ракою
Разам з Жэнем рос.
Любіць хлопчык кветкі,
Што і там, і тут
Восенню і ўлетку
Усё цвітуць, цвітуць,
Што ружовым морам
Залілі лясы,
Выткалі узоры
Дзіўнае красы.

*

Год мінуў, як над Шчараю
Сонца волі ўзышло.
Новай светлаю мараю
Заквітнела сяло,
Абудзіліся песнямі
За Хмяльніцай палі.
Людзі дружна і весела
Той парой зажылі.
Ні паноў, ні падпанкаў.



Усім бедным — зямля.
Людзі слухалі ўранку
Звон курантаў Крамля.
Людзі дзякуй казалі
Тым, хто шчасце ім даў.
Новы свет будавалі,
Шмат было ўсюды спраў.
Зааралі палоскі
І стварылі калгас…
З краю ціхае вёскі
Хата Жэні якраз.
Не забыць тое ранне,
Не забыць светлы дзень:
Усёй вёскай сяляне
Беглі трактар глядзець.
Разам з імі і Жэня
Бег к «стальному каню».
Як усе, з захапленнем
Гаварыў:
— Ну і ну!..
За ягонаю хатаю
Пралягла баразна.
Бег хлапчына за трактарам…
А навокал — вясна.
Трактарыст усміхаецца:
— Хочаш, я пракачу?
«Ой, дзівак, шчэ пытаецца…» —
Ну, вядома, хачу.
К трактарысту чубатаму
Скокнуў ён з баразны.
Каля гумнаў, паўз хаты
Едуць к лесу яны.
Паварот каля ўзмежка.

І зноў — скібы раллі.
Верасы іх усмешкай
Наўздагон правялі.

*

Такое сонечнае лета,
Такая мяккая трава.
На Шчары, сонейкам нагрэтай,
Нырае шумная дзятва.
І толькі пырскі, бы вясёлкі,
У промнях ласкавых блішчаць.
І чуцен Жэнеў голас звонкі:
— Ану, папробуйце дагнаць!
А вось ужо і бераг блізка.
На дне жаўцеецца пясок.
Ля самай рэчкі хвойнік нізкі,
А паміж хвоек — верасок.
— Абсохну трохі,— кажа Жэня,—
А потым зноўку паплыву.
Глядзіць хлапчына з захапленнем
На роднай рэчкі сіняву.
Такое сонечнае лета,
Як аксаміт, вакол трава.
На Шчары, сонейкам нагрэтай,
Нырае шумная дзятва.

*

Раніцой над Хмяльніцаю
Праплыла навіна,
Што на край навальніцаю
Наляцела вайна.
А хлапчыне не верыцца,



Што такое наўкруг.
Крочыць Жэня аселіцай
Праз пакошаны луг.
Раптам чуе размову ён
З-за ракіт, з-за кустоў:
— Мы не будзем палоннымі,
Будзем біцца мы зноў…
Мо за вёскаю гэтаю
Мы дагонім сваіх.
Падышоў непрыкметна
Збоку Жэня да іх.
Ен убачыў знясіленых
Трох савецкіх байцоў.
На іх тварах запыленых
Кроў відаць з-пад бінтоў.
— Прынясі нам, браточак,
Калі можна, вады.
Бо мы піць надта хочам
Дый даўно без яды, —
Дае Жэню біклажку
Малады камандзір.
— Добра. Мне ж хіба цяжка,
Прынясу ў міг адзін.
Па траве аксамітнай
Да крынічкі ляціць,
Бо байцы пад ракітаю
Прагнуць піць, хочуць жыць.
Напаіўшы вадою
Днём спякотным байцоў,
Ён таропкай хадою
Заспяшаўся дамоў.
— Мама, мамачка, бачыў
Я салдат ля ракіт.

З акружэння, няйначай,
Пахудзелых такіх.
І прасілі паесці…
Я налью са збанка…
Трэба ім мне занесці
Хлеба і малака.
…Ласкай свецяцца вочы
У трох савецкіх салдат:
— Ну, то дзякуем, хлопча,
Малайчына ты, брат!
І пайшлі яны ціха
Па сцяжыначцы ў гай.
Абміні ты іх, ліха,
Лес, лістотай схавай!

*

Чуюць бор над Шчараю,
Сцежкі, што ў расе:
— З лютаю пачвараю
Будзем біцца ўсе.
Мы прагонім катаў
З роднае зямлі,
Каб сады ля хатаў
Зноўку расцвілі.
І зімой і ўлетку,
З сябрам ці адзін
Жэня на разведку
З лагера хадзіў.
Поўз баец маленькі
Праз агонь і дым,
Узрываў ён рэйкі,
Нішчыў паязды.



Быў нібы дарослы
У атрадзе ён.
Ціха шэпчуць сосны,
То гудуць, бы звон.
І сцяжынкай волкай
Ён ідзе між хвой.
…У сяле на золку
Разгарэўся бой.
Косіць з аўтамата
Жэня Бакавец:
— Вось вам, знайце, каты,
Знайце наш свінец!

*

Хата цемрай агулена,
Ноч стаіць на двары.
Ах ты, сэрца матуліна.
«Як ён там, у бары?
Гэта ж восень халодная,
Хутка будзе зіма.
Можа, ён дзе галодны там,
Доўга весткі няма.
Жэня, Жэнечка, сыне мой,
Любы мой, дарагі,
Твае вочанькі сінія
Шмат спазналі тугі».
Ледзь задрэмле, дык бачыцца
Ёй сыночак у сне…
І матуля наплачацца,
Сум на сэрцы ў яе.
Але што гэта? Ціхенька
У шыбу — стук тры разы…

«Ой, міні яго ліханька,
Гэта ж ён, гэта ж сын!»
Адхінула фіранку.
Так і ёсць, гэта ён.
Абняліся на ганку.
— Бач ты!.. Спраўдзіўся сон.
Ну заходзь жа, мой сынку,
Хоць крыху пасядзім.
— Мама, я на хвілінку,
Я іду не адзін…
Мы ідзём на заданне,
Будзе раніцай бой.
Не крыўдуй, да спаткання…
— Хлопчык, Жэнечка мой…

*

Лясной сцяжынкай неўпрыкметку,
Паміж сасонак у бары,
Ішлі на досвітку ў разведку
Два партызаны, два сябры.
— А цішыня вакол якая,—
Прамовіў Жэня сябруку, —
Глянь: верасы не адцвітаюць, —
І ўзяў сцяблінку у руку.
…Яны патрапілі ў засаду
На скрыжаванні дзвюх дарог.
Крычалі спераду і ззаду,
Крычалі хлопцам:
— Хэндэ хох!
І калацілі стрэлы ранак,
І кулі ціўкалі наўкол.
Упалі хлопцы-партызаны



На верасы, на мокры дол.
Застракаталі аўтаматы
Па лютых злыднях у адказ.
Узняўся сябра і гранату
Шпурнуў у бок засады ўраз.
Шпурнуў… і раптам нахіліўся,
Панікнуў долу галавой,
На сцежку цяжка паваліўся
І прастагнаў:
— Забілі, о-о…
Адзін, адзін цяпер застаўся
У кальцы варожым Бакавец.
Яму крычалі:
— Рус, здавайся!
Табе капут, табе канец!
А ён за хвояй, сцяўшы зубы,
Бліжэй фашыстаў падпускаў.
І па звяругах-душагубах
Ва ўпор страляў, страляў, страляў.
Ды кончыліся ўсе патроны,
Замоўк гарачы аўтамат.
…Шумяць над Жэнем сосен кроны,
І перад ім — фашыстаў рад.
— А, партызанен… Гут… Папаўся!
Ну, што рабіць мы будзем з ім?..
— Не, вам я, ворагі, не здамся,
Не здамся, вылюдкі, жывым!
Бывайце, верасы і людзі,
Бывай, матуля, родны дом!
…І сам сабе — нажом у грудзі!
Заціхла сэрца пад лязом.
Так у баі загінуў смела
Айчыны нашай верны сын.

На ўсходзе неба ружавела,
І ружавелі верасы.

*

Дык вось якая ты, зямлянка…
Прыціхла маці. Сум вачэй.
Сядзім у лесе летнім ранкам,
А Шчара ціхенька цячэ.





## Змест

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Слонімскія настроі**

*Вершы*

Адказны за выпуск *Генадзь Вінярскі*
Рэдактар *Алена Спрытніч*
Вёрстка *Ларысы Гарадзецкай*
Карэктар *Алена Спрытніч*

Падпісана да друку 28.08.2016. Фармат 84x108 1/32.
Папера афсетная. Рызаграфія.
Ул.-выд. арк. 8,4. Ум. друк. арк. 5,26.
Наклад 99 асобнікаў. Зак. .

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў ЗАТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюдніка друкаваных выданняў № 2/182 ад 15.02.2016.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.